# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№49 (2503)

5 снежня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.


## З АРХІЎНАЙ СПРАВЫ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

# АПОВЯД СПАКУТАВАНАЙ, АЛЕ НЕЗЛАМАНАЙ ДУШЫ

Складаны жыццёвы шлях выпаў на долю Ларысы Геніюш. Надзяліўшы яе вялікім талентам, бязмежнай любоўю да сваёй радзімы Беларусі, лёс наканаваў ёй прайсці праз цяжкія выпрабаванні і пакуты і да канца жыцця заставацца вернай сваім ідэалам. Шмат ужо пісалася аб жыцці гэтай цудоўнай жанчыны, таленавітай паэткі, Чалавека з вялікай літары, шмат чаго яшчэ можна напісаць і, безумоўна, напішацца, але сёння дамо слова самой Ларысе Антонаўне — пазнаёмім чытача з яе жыццяпісам, так трапна і вобразна названым самой паэткай — "Сто ранаў у сэрца".



Гісторыя гэтага дакумента няпростая, як няпростае і само жыццё паэткі, усё тое, што яе акружала. У 1967 годзе да Ларысы Антонаўны звярнуўся крытык Іван Казека, які працаваў тады ў выдавецтве "Беларусь". У сваім лісце ён пісаў (цытуем з дазволу Івана Дарафеевіча"): "Наша выдавецтва выпусціла дзве кнігі аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў: "Пяцьдзесят чатыры дарогі" і "Пра час і пра сябе" — і прыступіла да падрыхтоўкі трэцяй кнігі аўтабіяграфій.

Я прашу Вас прыняць удзел у гэтай кнізе і напісаць для яе аўтабіяграфію старонак на 5—6 машынапісу. Калі напішацца крыху больш, — таксама не бяда. Хочацца толькі, каб гэта была перш за ўсё творчая біяграфія. Вядома, факты асабістага жыцця складуць яе змест, але добра было б, каб чытач мог знайсці і думкі пра літаратуру, цікавыя факты Вашай творчай біяграфіі..."

Ларыса Антонаўна станоўча адгукнулася на гэтую просьбу, і праз некаторы час вядомы, тады яшчэ даволі малады літаратуразнавец, даследчык старажытнай беларускай літаратуры, даўні сябар паэткі Мікола Прашковіч перадаў у выдавецтва два вучнёўскія сшыткі, запоўненыя адметным почыркам Ларысы Антонаўны. У выдавецтве перадрукавалі жыццяпіс на машынцы, і Іван Дарафеевіч, зрабіўшы сякія-такія заўвагі і папраўкі, адправіў арыгінал і машынапісны экземпляр жыццяпісу на азнаямленне Ларысе Антонаўне. У суправаджальным пісьме ён пісаў: "У панядзелак я забраў ад машыністкі Вашыя сшыткі і перадрукаваны тэкст. Почырк Ваш не вельмі лёгка чытаць; яна і я нават не ўсё змаглі разабраць. У сшытках папраўкі і выкрэсліванні зроблены Прашковічам. Аддрукавана толькі тое, што ён пакінуў. А я на друкаваным экземпляры паспрабаваў зрабіць так, як, мне здаецца, лепш будзе да друку...

НА ЗДЫМКУ: Ларыса ГЕНІЮШ.

(Працяг на 6-й стар.).

## ПАСЛЯ ПЛЕНЭРА

# АДРАДЖЭНСКАЯ ПОСТАЦЬ У БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

У апошняе дзесяцігоддзе даследчыкі вярнулі ў гісторыю беларускага мастацтва імёны сусветна вядомых мастакоў — ураджэнцаў Віцебшчыны І. Хруцкага і М. Шагала, якія лічыліся выключна рускімі мастакамі. Замацаванню іх імёнаў у нашым мастацтве паспрыялі і прысвечаныя ім пленэры, арганізаваныя на Віцебшчыне пры фінансавай падтрымцы Фонду Сораса. Але спіс выдатных і паўзабытых афіцыйнай навукай мастакоў Віцебшчыны, якія тут нарадзіліся і працавалі, унеслі значны ўклад у сусветнае мастацтва і культуру першай паловы XX стагоддзя і якімі можа ганарыцца Беларусь, на гэтым не вычэрпваецца.

Да славутай плеяды мастакоў Віцебшчыны належыць і Язэп Драздовіч — "універсальны творца беларускай мастацкай культуры, літаратар, асветнік, збіральнік фальклору, даследчык-аматар археалогіі і астраноміі, аўтар арыгінальнай тэорыі руху касмічных аб'ектаў", па слушнаму вызначэнню Арсена Ліса.

Менавіта Я. Драздовічу быў прысвечаны І-шы пленэр у верасні 1996 года, арганізаваны пры фінансавай падтрымцы Беларускага фонду Сораса, Культурна-асветніцкага цэнтра імя Я. Драздовіча і актыўным удзеле кіраўніцтва саўгаса "Гарадзец", што знаходзіцца паблізу Глыбокага і вёскі Германавічы.

У час закрыцця І-га пленэра мастакі, паэты, пісьменнікі, мастацтвазнаўцы і дзеячы культуры, якія там прысутнічалі, у тым ліку выканаўчы дырэктар Віцебскага аддзялення фонду Сораса — Валянціна Кірылава, пачулі з вуснаў паэта Сяргея Панізьніка яго верш-заклік (надрукаваны ў 1994 годзе) "Спадкі дзядзькі Язэпа", звернуты да мастака Аляксея Марачкіна, які некалькі дзесяцігоддзяў займаецца пошукам расцярушанай мастацкай спадчыны Я. Драздовіча.

Асабіста ў мяне склалася ўражанне, што менавіта вершаваны покліч паэта стаўся штуршком для А. Марачкіна, каб арганізаваць гэты першы пленэр Я. Драздовіча ў мясцінах, дзе нарадзіўся, жыў і працаваў яго славуты зямляк. І сапраўды, чаму мы так неашчадна ставіліся да сваіх знакамітых творцаў і тытанаў навуковай думкі, дзейнасцю якіх мог бы ганарыцца кожны народ свету? Ад нас жа залежыць ушанаванне памяці нашых прашчураў і папярэднікаў, ад нашых паважных адносін да іх залежыць і паважнае стаўленне да беларусаў нашых сусядзяў. Вось асобныя вытрымкі з покліча С. Панізьніка:

(Працяг на 6-й стар.).

## ПАМЯЦІ АНДРЭЯ СНІТКІ

# ГАСПАДАР КАЛЬСБЭРГА

Кожнае лета пасля вяртання з адпачынку мае калегі ды знаёмыя пытаюцца, дзе я бавіў час, дзе адпачываў. І я кожнага разу таямніча, з інтрыгаю, казаў, кажу:

— У Кальсбэргу!

Згаданая назва ва ўсіх без выключэння выклікала і выклікае недаўменне і здзіўленне:

— Кальсбэрг? А дзе гэта?

Заінтрыгаваўшы сваіх знаёмых назваю, я стараўся сваю інтрыгу ўзмацніць. Адныму казаў, што згаданы мной Кальсбэрг у Венгрыі, другому,— што ў Швецыі, трэцяму — у Нямеччыне. Такія ўдакладненні яшчэ больш раззадорвалі маіх знаёмых. "А як ты туды патрапіў? Хто табе паспрыяў?" Іншыя пыталіся, адкуль у мяне сродкі на такія паездкі па замежжы. І тут я мусіў шчыра прызнацца, што блазную, што мой таямнічы Кальсбэрг ні за якай мяжою, а недалёка ад Мінска, пад Радашкавічамі. Але такі адказ маіх субяседнікаў ужо не задавальняў. Мяне прасілі расказаць, што гэта за Кальсбэрг, чаму такая назва ў яго, чым ён мяне прывабіў. І я расказваў пра згаданую мясціну. Мяне слухалі і казалі: "Дык гэта ж неверагодна цікава! Пра гэта павінны ведаць усе!" — радзілі як мага хутчэй напісаць кніжачку пра загадкавы Кальсбэрг. Ну, але хутчэй не атрымалася. Трэба было як след спазнаць гэты Кальсбэрг, людзей, што жылі калісь тут, спазнаць іхнія думкі, клопаты, трывогі, памкненні. Дый самога сябе не перасокчыш. Трэба было завяршыць, упарадкаваць іншыя задумы, што наспелі раней. І вось дайшла нарэшце чарга і да Кальсбэрга. Гэтая назва да мяне прыйшла праз Купалу, разам з Купалам, з ягонымі творамі, якія былі напісаны ў Кальсбэргу. Але пра ўсё сваім парадкам. Кальсбэрг — у народзе Кальзбэрак, Калісберг — гэта колішні маёнтак некалі вядомага на Беларусі археолага, гісторыка, асветніка і этнографа.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Першы снег у Мінску.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ.

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

## АБ ВЫНІКАХ ГАЛАСАВАННЯ НА РЭСПУБЛІКАНСКІМ РЭФЕРЭНДУМЕ 24 ЛІСТАПАДА 1996 ГОДА

Разгледзеўшы пратаколы абласных і Мінскай гарадской камісій па рэферэндуму аб выніках галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 года, Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў паведамляе:

У спісы грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у рэспубліканскім рэферэндуме, былі ўключаны 7 346 397 чалавек, у галасаванні на рэспубліканскім рэферэндуме прынялі ўдзел 6 181 463 чалавекі, або 84,14 працэнта.

Вынікі галасавання па кожнаму пытанню, якое вынесена на рэспубліканскі рэферэндум Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, наступныя:

за адабрэнне пытання "Перанесці Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень рэспублікі) на 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне" прагаласавалі 5 450 830 чалавек, або 88,18 працэнта, супраць прагаласавалі 646 708 чалавек, або 10,46 працэнта, 83 925 бюлетэняў у частцы гэтага пытання прызнаны несапраўднымі:

за прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са зmяненнямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаванымі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкам, прагаласавалі 5 175 664 чалавекі, або 70,45 працэнта, супраць прагаласавалі 689 642 чалавекі, або 9,39 працэнта, 316 157 бюлетэняў у частцы гэтага пытання прызнаны несапраўднымі;

за адабрэнне пытання "Ці выступаеце Вы за свабодную, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі!" прагаласавалі 948 756 чалавек, або 15,35 працэнта, супраць прагаласавалі 5 123 386 чалавек, або 82,88 працэнта, 109 321 бюлетэнь у частцы гэтага пытання прызнаны несапраўдным;

за адабрэнне пытання "Ці падтрымліваеце Вы адмену смяротнай кары ў Рэспубліцы Беларусь!» прагаласавалі 1 108 226 чалавек, або 17,93 працэнта, супраць прагаласавалі 4 972 535 чалавек, або 80,44 працэнта, 100 702 бюлетэні ў частцы гэтага пытання прызнаны несапраўднымі.

Вынікі галасавання по кожнаму пытанню, якое вынесена на рэспубліканскі рэферэндум дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, наступныя:

за прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са зmяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі дэпутатамі фракцый камуністаў і аграрыяў, прагаласавалі 582 437 чалавек, або 7,93 працэнта, супраць прагаласавалі 5 230 763 чалавекі, або 71,2 працэнта, 368 263 бюлетэні ў частцы гэтага пытання прызнаны несапраўднымі;

за адабрэнне пытання "Ці выступаеце Вы за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады выбіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі!" прагаласавалі 1 739 178 чалавек, або 28,14 працэнта, супраць прагаласавалі 4 321 866 чалавек, або 69,92 працэнта, 120 419 бюлетэняў у частцы гэтага пытання прызнаны несапраўднымі;

за адабрэнне пытання "Ці згодны Вы, што фінансаванне ўсіх галін улады павінна ажыццяўляцца галосна і толькі з дзяржаўнага бюджэту!" прагаласавалі 1 989 252 чалавекі, або 32,18 працэнта, супраць прагаласавалі 4 070 261 чалавек, або 65,85 працэнта, 121 950 бюлетэняў у частцы гэтага пытання прызнаны несапраўднымі.

Па пытаннях прыняцця Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь вынікі галасавання дадзены зыходзячы з колькасці грамадзян, якія ўнесены ў спісы для галасавання, а па астатніх пытаннях — зыходзячы з колькасці грамадзян, якія прынялі ўдзел у галасаванні.

## «СІЛАВІКІ» ПАДТРЫМАЛІ ПРЭЗІДЭНТА

Вынікі ўдзелу прадстаўнікоў беларускіх сілавых структур у праведзеным рэферэндуме аб'явіў 26 лістапада ў Нацыянальным прэс-цэнтры на сустрэчы з журналістамі прэс-сакратар Савета бяспекі Васіль Баранаў.

Паводле яго слоў, у плебісцыце прынялі ўдзел 99,6 працэнта афіцэраў, прапаршчыкаў, салдат, сяржантаў, рабочых і служачых сілавых міністэрстваў і ведамстваў. Так, напрыклад, ва ўнутраных войсках у галасаванні прынялі ўдзел 100 працэнтаў ваеннаслужачых. З іх за праект дапаўненняў і змяненняў у Канстытуцыю, прапанаваны Прэзідэнтам, прагаласавалі 93 працэнты, а за праект змяненняў Канстытуцыі, вынесены на рэферэндум дзвюма парламенцкімі фракцыямі, — 3,5 працэнта.

У пагранічных войсках і КДБ у галасаванні ўдзельнічалі 99,9 працэнта асабовага саставу гэтых структур. Пераважная большасць з іх таксама падтрымала прэзідэнцкія ініцыятывы. Ва Узброеных Сілах і чыгуначных войсках за папраўкі, прапанаваныя кіраўніком дзяржавы, выказаліся, адпаведна, 85 і 89 працэнтаў ваеннаслужачых.

Васіль Баранаў падкрэсліў: гэтыя вынікі рэферэндуму сведчаць аб тым, што пераважная большасць прадстаўнікоў сілавых структур поўнасцю падтрымлівае ініцыятывы Прэзідэнта Беларусі.

*ПАДПІСАНА НОВАЯ РЭДАКЦЫЯ КАНСТЫТУЦЫІ*



28 лістапада ў Мінску адбылася першая сесія Палаты прадстаўнікоў Народнага сходу Рэспублікі Беларусь, дзе была падпісана новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

НА ЗДЫМКУ: у час падпісання новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

*ПОГЛЯД ЗБОКУ*

## НЕ МЕЛІ ШАНЦУ

"Беларускія выбаршчыкі былі пазбаўлены шанцу прадэманстраваць падчас рэферэндуму дэмакратычны выбар, паколькі асвятленне кампаніі вялося аднабакова". Пра гэта 25 лістапада на прэс-канферэнцыі заявіў рэдактар брытанскай газеты "Гардыян" Джонатан Сціл, які ўзначальваў групу міжнародных назіральнікаў ад Еўрапейскага інстытута па СМІ.

Свае словы сп. Сціл пацвердзіў вынікамі маніторынгу, які назіральнікі ажыццяўлялі на працягу двух тыдняў напярэдадні рэферэндуму. Пры гэтым ён заўважыў, што эксперты не сачылі за ходам галасавання і падлікам бюлетэняў, а сканцэнтравалі сваю ўвагу толькі на дзейнасці тэлебачання, радыё і газет. Асабліва іх цікавілі электронныя сродкі масавай інфармацыі, якія маюць найбольшы ўплыў на грамадзян. Такім чынам, паводле інфармацыі назіральнікаў, з 9 па 23 лістапада дзяржаўнае тэлебачанне Беларусі прысвяціла рэферэндуму 2 178 хвілін эфірнага часу (гэта больш за паўтара сутак), з якіх 90 працэнтаў былі на карысць Прэзідэнта А. Лукашэнкі, а астатнія мелі нейтральны характар. Вярхоўны Савет на свой рахунак не можа запісаць ніводнай хвіліны. Пра яго гаварылася толькі тады, калі выбаршчыкаў заклікалі галасаваць супраць прапаноў парламента. Яшчэ больш складаная сітуацыя на Беларускім радыё, дзе нагаварылі 2 249 хвілін пра плебісцыт. 92 працэнты размоў былі на карысць прэзідэнцкіх прапаноў, а Вярхоўны Савет зноў не атрымаў ніводнай хвіліны.

Што датычыцца газет, то тут Еўрапейскі інстытут па СМІ таксама прыгадаў мала станоўчых фактаў. Дзяржаўныя друкаваныя органы ў абсалютнай большасці падтрымлівалі і адлюстроўвалі прэзідэнцкі бок. Альтэрнатыўную пазіцыю прадстаўлялі нешматлікія недзяржаўныя газеты, якія выдаюцца невялікім накладам, распаўсюджваюцца пераважна ў вялікіх гарадах, не аказваючы, такім чынам, моцнага ўздзеяння на выбаршчыкаў.

*СТВОРАНЫ Ў МАГІЛЁВЕ*

## АЎТАПОЕЗД ДЛЯ ШАХТ

Новы падземны аўтапоезд для работы ў шахтах са складаным рэльефам залягання выкапняў створаны на Магілёўскім аўтамабільным заводзе імя Кірава. Ад папярэднікаў ён адрозніваецца высокім узроўнем манеўранасці. Навінка сканструявана па заказу шэрага горна-металургічных камбінатаў Казахстана і Расіі.

*МЯСЦОВЫЯ НАВІНЫ*

## НОВЫЯ МАСТЫ

Адразу па двух аўтадарожных жалезабетонных мастах адкрыўся рух транспарту ў Слоніме. Адзін з мастоў злучыў берагі ракі Шчары, другі — рукатворнага Агінскага канала.

Пракладзены масты ўзамен драўляных, якія будаваліся пасля вайны і знаходзіліся ў аварыйным стане. Цяпер з'явілася магчымасць нармалізаваць у горадзе рух транспарту.

*ДЗЕЦІ І ПРАВА*

## ПРЫЕМНЫЯ ВЕСТКІ

Упершыню за апошнія пяць гадоў у Беларусі зафіксавана зніжэнне колькасці правапарушэнняў сярод непаўналетніх. За 10 месяцаў 1996 года гэтая лічба ў цэлым па рэспубліцы знізілася на 8,1 працэнта ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. У многім паляпшэнне сітуацыі звязваюць з увядзеннем у штатны расклад школ і вучылішчаў пасад сацыяльных педагогаў і практычных псіхолагаў.

## БЕЛАРУСЬ — ЕЎРАПЕЙСКАЯ КРАІНА

"Народ Беларусі выказаў на рэферэндуме сваю волю, і я мяркую, што думка народа будзе ўспрынята з павагай". Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з членамі дэлегацыі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы і Еўрапарламента, якую ён прыняў вечарам 25 лістапада ў сваёй рэзідэнцыі.

Прэзідэнт Беларусі пацвердзіў сваю ранейшую пазіцыю, якая заключаецца ў тым, што інтэграцыя Беларусі ў еўрапейскае супольніцтва з'яўляецца адным з прыярытэтаў знешняй палітыкі дзяржавы. Аднак апошнім часам па прычыне ўнутрыпалітычных рознагалоссяў асобныя парламентарыі спрабавалі сфарміраваць на Захадзе думку, што Беларусі быццам бы непатрэбна еўрапейскае супольніцтва і яго структуры. "Я яшчэ раз пацвярджаю, што мы — еўрапейская краіна і наша месца ў адзінай еўрапейскай сям'і. Я перакананы, што мы станем членам гэтай сям'і", — сказаў кіраўнік дзяржавы.

Прэзідэнт таксама падкрэсліў, што шматвектарнасць знешняй палітыкі Беларусі прадугледжвае і вельмі цеснае супрацоўніцтва з Расіяй, да расшырэння кантактаў з якой, дарэчы, імкнуцца практычна ўсе краіны свету. Што ж датычыць паглыблення інтэграцыйных працэсаў паміж дзвюма брацкімі дзяржавамі-суседзямі, то яны абумоўлены агульнасцю інтарэсаў і традыцый, а таксама шматгадовымі эканамічнымі сувязямі.



НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.

З ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# ВЫЙШАЎ ТРЭЦІ ТОМ ГІСТАРЫЧНАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

На гістарычным факультэце Белдзяржуніверсітэта адбылася прэзентацыя III тома "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Кніга "народжана" выдавецтвам "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі і з'яўляецца чарговай у задуманым шасцітомным зборы. Здавалася б, яе выхад — падзея, хаця і прыемная, але дастаткова будзённая. Тым не менш, той, хто ведае пра акалічнасці, звязаныя з падрыхтоўкай і выданнем энцыклапедыі, зразумее асаблівасць прэзентуемай працы. Трэці том — памежны, усе наступныя будуць мець не толькі значна зменены аўтарскі калектыў, але і іншую канцэпцыю падбору матэрыялу, можа нават сказаць, іншую ідэалогію.

Прычын таго доўга шукаць не трэба: сёлета ў "Беларускай Энцыклапедыі" прызначана новае кіраўніцтва. Трэці том якраз адметны тым, што пачынаў стварацца і быў практычна падрыхтаваны пры галоўным рэдактары Барысе Сачанку, а закончаны і надрукаваны пры Генадзю Пашкову, пазіцыя і погляды якога, як высветлілася, значна адрозніваюцца ад падыходаў папярэдніка.

Прадстаўляючы кнігу, прафесар Петрыкаў, ён жа намеснік галоўнага рэдактара БелЭН, адзначыў шэраг унесеных змен. З вокладкі знікла "Пагоня", застаўся толькі абрыс таго месца, дзе яна была. Меркавалі выцінуць там Курган Славы ці Сафійскі сабор, але запярэчыў мастак, які рабіў афармленне. Адбыліся змены і па зместу, неістотныя, на думку Пятра Петрыкава. Ён жа і прывёў прыклады. Па-першае, новая рэдкалегія імкнулася, дзе магчыма, прыгадаць усходнеславянскую дзяржаву — Кіеўскую Русь. Па-другое, знайшлася, на погляд цяперашняга кіраўніцтва, у ранейшым варыянце кнігі і так званая антыруская, антырасійская накіраванасць. "Пачысцілі" і ў сувязі з гэтым. Прайшліся па артыкулах, звязаных з гісторыяй Вялікай Айчыннай вайны, "скарэкціравалі" ацэнку савецкага перыяду, дакладней, палічылі недаацэненымі ўсе яго вартасці. Карацей, як сказаў Пётр Ціханавіч, намагаліся расставіць акцэнты ў адпаведнасці з гістарычнай праўдай. Увогуле, вельмі слушнае памкненне. Толькі, на жаль, у нашай дзяржаве сення, гэта паказала і летняя дыскусія на старонках "Голасу Радзімы", гістарычная праўда, як і ўвогуле праўда, у кожнага свая. Дарэчы, адна з выступаючых навукоўцаў, Галіна Сяргеева, назвала знятую з вокладкі «Пагоню» і многія іншыя карэкцівы, унесеныя ў кнігу, пячаткай цэнзуры. На жаль, сёння ёсць падставы аднесціся да яе меркавання вельмі сур'ёзна. Калі гэтая з'ява — цэнзура — здолее буйна расквітнець, пацерпіць і наша грамадства, і беларуская навука, і само выданне, увогуле вельмі патрэбнае і карыснае. Дарэчы, калі тыраж першых двух тамоў склаў па 20 тысяч экземпляраў і паспяхова разышоўся, то трэцяга ўжо толькі дзесяць. А мы памятаем нядаўнія часы, калі і адна тысяча экземпляраў некаторых "навуковых даследаванняў" ляжала на паліцах кнігарань гадамі, а потым спісвалася ў макулатуру. Хочацца спадзявацца, што такі сумны лёс не напаткае астатнія кнігі "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі".

**Галіна УЛІЦЁНАК.**



**Гэта не першая сустрэча прадстаўнікоў народнай асветы Гомельшчыны з пасланцамі далёкай Даніі. Сёлета адтуль прыбыла дэлегацыя, у складзе якой члены парламента, мэр горада Экtвед. Натуральна, гутарка выйшла за рамкі толькі асветы. Госці запрасілі ў Данію, дзе практычна адсутнічаюць правапарушэнні падлеткаў, гомельскіх міліцыянераў для азнаямлення з работай мясцовай паліцыі.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

ПА ЧУЖЫХ СТАРОНКАХ

# ІНТЭГРАЦЫЯ НА ГЛЕБЕ СПЕКУЛЯЦЫІ

Да аддаленых вёсак Пскоўскай, Смаленскай і Цвярской абласцей дабіраюцца прыватныя легкавушкі з віцебскімі нумарамі. Там нашых вадзіцеляў любяць і чакаюць. Не дзяўчаты, а дзядулі і бабулі. За тое, што хлопцы рэгулярна дастаўляюць нават у глухамань хлеб, масла, каўбасу...

Прадукты — свежыя, якасныя і таннейшыя, чым у мясцовых магазінах.

Вываз прадуктаў праз Віцебскую вобласць у сумежныя паўночна-ўсходнія землі Расіі, як гэта не раз бывала і раней, цяпер зноў ажывіўся і дасягнуў недапушчальных маштабаў. Не выпадкова чарговая экстранная нарада па пытаннях гандлю ў кабінеце намесніка старшыні аблвыканкома М. Федарчука пачалася з даклада начальніка УУС. А. Пахомава.

За тры дні міліцыянеры выявілі на беларуска-расійскіх дарогах больш за 60 машын, набітых прадуктамі. Чаго ў іх толькі не было! Селядцы і тушонка, пячонка і згушчонае малако, халва і дрожджы, водка і воцат, капуста і арэхі. І, уявіце сабе, нават запалкі і соль!

Вядома, не дробнай розніцай, а скрынямі, бітонамі, мяшкамі.

Нельга забараніць чалавеку аб'ехаць некалькі гандлёвых кропак і пакрысе набраць шмат. Але можна біцца аб заклад, што нехта Вячэрскі з Гарадка, што рухаўся ў бок Пскова з грузам яек на 12,3 мільёна рублёў, узяў свой тавар на мясцовай птушкафабрыцы, у магазіне для персанала. Жыхар Шуміліна Карпаў, які збіраўся прадаць дзе-небудзь у Вялікіх Луках 200 кілаграмаў сметанковага масла, 60 кілаграмаў сыру і 120 кілаграмаў смятаны, мае непасрэдныя адносіны да масласырзавода свайго райцэнтра. Ён там — слесар.

Вінаваціць унутрызаводскія і фірменныя магазіны за неабмежаваны водпуск тавараў нялёгка. Прадпрыемствам патрэбны "жывыя" грошы на заработную плату. І хутчэй. Але калі ў Веліжы збіраюцца спыняць пякарню, таму што віцебскі хлеб лепшы і таннейшы, а ў Віцебску пасля трох гадзін дня не заўсёды знойдзеш бохан чорнага, гэта не натхняе людзей.

Тое, што работнікі ДАІ, ОБЭП, пракуратуры і аблвыканкома дзяжураць на аўтамагістралях, — добра. Іншае пытанне — ці законна? Таможні адменены, мяжа ўмоўная. Чаму ў Гродна да бабкі дазваляецца везці прадукты, а да цёткі ў Невель нельга?

Але як жа спакойна ўспрыняць дзеянні грамадзяніна Сафарава, які перапраўляў (і, напэўна, не першы раз) на Смаленшчыну паўтоны сметанковага масла? Гэта ж колькі бутэрбродаў ён мог у нас адабраць за адзін рэйс?

Пра бутэрброд — не для чырвонага слоўца. Следам за Сафаравым група маладых людзей везла паўтоны хлеба, а аршанец Берлін накіроўваўся ў Расію з каўбасой. І было яе — 750 кілаграмаў!

Абласныя, гарадскія і раённыя службы, якія кантралююць гандаль, б'юцца, як рыба аб лёд, каб папоўніць магазіны прадуктамі, што плывуць за ўмоўную мяжу. Валявым парадкам згортваецца вытворчасць сыроў, сухога і кансерванага малака. Амаль уся сыравіна ідзе на масла, якога стала не хапаць. Магчыма, прыйдзецца запусціць руку ў рэзерв, замарожаны на зіму.

Абласная ўлада цісне на сельскую гаспадарку: давайце мяса, каўбасу скора рабіць не будзе з чаго. Аблсельгасправ таксама: эканомце, таму што мы цёлак і кароў на бойню не павядзём. Летась гэтай парой у халадзільніку Віцебска ляжала 600 тон "запаснөй" ялавічыны. Цяпер там амаль пуста. Абласны цэнтр стаў атрымліваць 15 працэнтаў каўбасы ад звычайнага ўзроўню пастаўкі. Горад успомніў аб чэргах. Вядома, дарагіх прадуктаў многа, але іх дастатак і разнастайнасць гарантуецца зніжэннем пакупной здольнасці жыхароў у сувязі з ростам курсу долара і невысокай зарплатай.

— Старыя ў вёсках Цвярской вобласці закупляюць хлеба на тыдзень, да наступнага нашага прыезду,— шчыра прызнаўся адзін з "чалнакоў". У Віцебску бохан хлеба каштуе менш за тры тысячы — самы танны ў рэспубліцы. А ў цвярычоў — дзве тысячы расійскімі. Памножце на каэфіцыент і палічыце, якую мы маем выгаду, калі нават прададзім бохан не за 2 тысячы "крамлёвак", а за паўтары. Кожны рэйс — па мільёну прыбытку. А на сваю зарплату я сям'ю не пракармлю...

Той, хто гаворыць, што становішча выратуюць патрулі, інспектары, суды і ўвогуле рэпрэсіўныя меры, памыляецца. Ва ўмовах таможняў і то вазілі. А акрамя ж аўтадарог, ёсць і чыгункі, афіцыйна дазволены аўтобусныя шоптуры (што дапамагаюць выжыць гарадскому транспарту). Можна на кожнай магістралі наладзіць вобыскі машын, закрыць фірменныя магазіны харчовых прадпрыемстваў і пасадзіць у кожным ларку пракурора, але ўцечка прадуктаў не спыніцца.

Да таго ж канфіскаваныя прадукты няма куды дзець. Ні гандаль, ні санстанцыя не могуць даць "дабро" на продаж насельніцтву мяса, каўбасы, сыру, тварагу, хлеба, малака і многага іншага, што пабывала ў руках спекулянтаў, адлежалася і ў іх дома, і ў машынах, і ў аддзеле міліцыі.

Самы жорсткі кантроль на дарогах, заводах і ў магазінах прымусіць, вядома, прыватных гандляроў пастаяць у многіх чэргах, везці менш і не па галоўных шляхах, а па абходных, на якія міліцэйскіх пастоў не набярэшся. Але павязуць.

Думаю, чытач ужо сам зрабіў вывады з фактаў і лічбаў. Наша "прыкладная", будзённая, бытавая эканоміка залежыць ад цэн і ўзроўню даходаў у Расіі. Пакуль у нас тое і другое будзе ніжэйшае (як і рубель), наш "бутэрброд" апынецца на стале расіяніна, за "празрыстай мяжой". І такая аднабаковая "інтэграцыя" харчовых прыпасаў ні да чаго добрага не прывядзе. Толькі за тры дні "аблаў" і толькі на шашы ўлоў міліцыі склаў 200 мільёнаў рублёў...

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

г. Віцебск.

("Народная газета").

З УСЁЙ ПЛАНЕТАЙ

# ДОСТУП У INTERNET

У пачатку гэтага года Беларуская сельскагаспадарчая бібліятэка пачала рэалізоўваць праект "Арганізацыя бясплатнага доступу да Internet у мэтах паскарэння пазітыўных пераўтварэнняў у аграрным сектары Беларусі". Сродкі на гэты праект прадаставіла Агенцтва міжнароднага развіцця ЗША ў памеры 3 152 долары ў выглядзе гранта на конкурсе, праведзеным Фондам Еўразія.

Internet — гэта сусветная камп'ютэрная сетка, у якую ўключаны мільёны камп'ютэраў. Праз гэтую сетку можна ажыццяўляць доступ да інфармацыі, што ўтрымліваецца ў гэтых камп'ютэрах, і выкарыстоўваць Internet як сродак глабальнай сувязі. Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, у сельскай гаспадарцы якой няма ніякай магчымасці публічнага доступу да Internet і, адпаведна, немагчыма ні прыняць сусветную, ні перадаць нацыянальную інфармацыю ў сусветную інфармацыйную прастору праз Internet.

Бібліятэка на сродкі гранта ўжо наладзіла прамую чатырохправодную лінію ад камп'ютэра бібліятэкі ў Курасоўшчыне да камп'ютэра-сервера сеткі ЮНІБЕЛ у цэнтры горада, набыла два мадэмы для ўстаноўкі на канцах прамой лініі, праграмныя сродкі Internet і аплаціла доступ у Internet у рэжыме прыёму на два гады наперад.

Аднак сродкаў гранта не хапіла для рэалізацыі праекта, і на дапамогу бібліятэцы прыйшла Акадэмія аграрных навук. Вучоныя-аграрнікі, якія больш за іншых зацікаўлены ў атрыманні доступу да інфармацыі, выдзелілі 25 мільёнаў рублёў для ўкаранення праекта.

А ў кастрычніку г. г. праграма "Internet у Мінску" Беларускага фонду Сораса падтрымала праект бібліятэкі па яе падключэнні да Мінскага апорнага оптавалаконнага кальца за сродкі праграмы.

У выніку фінансавай падтрымкі трох паважаных арганізацый у канцы года ўсе работы будуць завершаны і вольны доступ да Internet пачне дзейнічаць у бібліятэцы. Гэта, вядома, першая стадыя асваення Internet. Сельскай гаспадарцы Беларусі крайне неабходна вывесці праз Internet у транснацыянальную інфармацыйную прастору інфармацыю аб сваім навуковым і рыначным патэнцыяле і зрабіць яе даступнай любому жыхару планеты. Для гэтага ў бібліятэцы неабходна ўстанавіць Internet-сервер і падрыхтаваць неабходную для экспарту інфармацыю.

# УНІЯЦТВА Ў ЛЁСЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Але ж І. Сямашка замест таго каб заняцца адраджэннем беларускага элемента ва уніяцкім богаслужэнні, вяртаннем статуса нацыянальнай гэтай царкве, найперш заклапочаны, як зліць яе вернікаў з праваслаўем, практычна цалкам пабудаваным на рускіх пачатках, г. зн. хацеў уніятаў выгнаць з агню ды ў полымя. Гэта, на яго думку, не такая ўжо і складаная справа: "...варта іх толькі аддаліць некалькі ад рымлян ...варта даць пры дапамозе выхавання належны напрамак грамадскай думцы духавенства, якое займае 1 500 уніяцкіх прыходаў... і народ лёгка пойдзе шляхамі, якія паказваюцца сваімі пастырамі. Няхай пасляшаецца добразычлівае начальства правядзеннем да дзеяння адзіна да гэтага сапраўды разважліваю найвысачэйшаю воляю ўказанай меры — заснаваннем вучылішчаў для уніяцкага духавенства".

Акцэнт І. Сямашкі на спецыяльныя вучылішчы для уніятаў трэба прызнаць вельмі і вельмі слушным, бо без пераканання нельга схіліць чалавека прыняць душой і сэрцам тую ці іншую ідэю. Ствараць жа іх і па форме, і па зместу меркавалася паводле ўзораў рускіх праваслаўных вучылішчаў. Мала хто, як І. Сямашка, гэтак добра разумеў ролю рускай мовы ў размыванні менталітэту беларусаў і іх асіміляцыі ў рускім асяроддзі, што відаць з наступных яго слоў: "Нішто больш не зближае людзей паміж сабой, як выкарыстанне ў супольным жыцці адной мовы, а таму і трэба ўвесці ва ўсіх духоўных вучылішчах выкладанне навук замест польскай на рускай мове — адразу або паступова".

І. Сямашка ўмела выкарыстаў для барацьбы з уніятамі ўдзел многіх з іх у паўстанні 1830—1831 гадоў. Не абмяжоўваючыся прапановамі чыста практычнага плана, ён, карыстаючыся сваімі магчымасцямі, узмацніў антыуніяцкую дзейнасць на тээрэтычным фронце, імкнучыся як мага больш зганьбіць гэтую веру, выклікаць да яе непавагу з боку вернікаў іншых канфесій. У датаванай 26 ліпеня 1832 года запісцы аб становішчы уніяцкай царквы пасля паўстання 1830 года ён, насуперак праўдзе, сцвярджаў: "...Унія ніколі не мела ўласнай самастойнасці — гэта была толькі мера для перараджэння рускіх праваслаўных у рымлян-палякаў; і уніяты ў дзвюхвяковай барацьбе гэтых наймагутных праціўнікаў прымушаны былі заўсёды пакарацца мацнейшаму". Зразумела, такую меру польскае каталіцкае духавенства ставіла, але ёй вельмі ўпарта і часта даволі пасляхова супраціўляліся уніяты, якія ўсё ж не атаясамліваліся з палякамі, а найчасцей называлі сябе "ліцьвінамі" ("літвінамі"). Гэта толькі тыя з праваслаўных, што напрамую прыйшлі ў каталіцкую веру, у большасці лічылі сябе палякамі. Уніяцтва ж, наадварот, дазваляла захоўваць сваю этнічную прыналежнасць. Калі б гэта было не так, міністр унутраных спраў Расіі Блудаў не пісаў бы І. Сямашку: "Гасудар імператар у бацькоўскай клапатлівасці аб шчасці ўсіх верных яго падданых, звяртаючы сталую ўвагу і на асаблівае становішча уніятаў, што знаходзяцца ў імперыі,.. заўсёды выказваў цвёрдую сваю волю, каб гэтая народнасць іх, **якая не змянілася на працягу гэтакага доўнага часу** (падкрэслена мною. — **Л. Л.**), была ва ўсіх адносінах ахоўваемай...". Як бачым, не змяніліся ж!

Праўда, куды цяжэй было уніятам заставацца самімі сабой, калі яны яшчэ і з усходу, г. зн. з боку Рускай праваслаўнай царквы, адчулі ўціск, несправядлівасць да сябе. У такім становішчы яны і сапраўды маглі пацягнуцца да палякаў, з якімі мелі так шмат гадоў супольнага жыцця ў складзе Рэчы Паспалітай. Між іншым, гэта добра прадбачыў і І. Сямашка, пішучы: "...уніяцкая справа, пазбаўленая, з аднаго боку, апоры ў агульным поглядзе і садзеяння рускіх праваслаўных, а з другога, знаходзячыся пад самым магутным супрацьдзеяннем палякаў-рымлян, лёгка зноў можа пахіснуцца".

Сваімі канкрэтнымі справамі па службе, антыуніяцкімі публікацыямі І. Сямашку ўдалося паўплываць на многіх высокіх асобаў, у тым ліку і на далучаных да кіравання дзяржаваю. Не без яго заслугі быў створаны спецыяльны сакрэтны Камітэт па уніяцкіх справах. З сакрэтнага паведамлення міністра ўнутраных спраў Блудава І. Сямашку ад 29 мая 1835 года вынікае, што галоўнай функцыяй данага камітэта з'яўлялася абарона уніятаў ад польска-рымскага ўплыву і ўсё большая інтэграцыя іх у праваслаўе. Прадбачачы, што такая інтэграцыя магла выклікаць супрацьдзеянне, і вырашылі стварыць асобы камітэт, у дзейнасці якога актыўны ўдзел браў І. Сямашка. Ад грэка-расійскай царквы ў яго ўвайшлі мітрапаліт Наўгародскі Серафім, мітрапаліт Маскоўскі Філарэт і архіепіскап Цвярскі Грыгорый, ад грэка-уніяцкай — мітрапаліт Іязафат Булгак, ад свецкіх дзяржаўных саноўнікаў — міністр унутраных спраў Блудаў, генерал — ад інфантэрыі граф Талстой, правадзейны тайны саветнік князь Галіцын, статс-сакратар Танееў і сінадальны обер-пракурор Нячаеў. Ужо па асабовому складу камітэта можна меркаваць, якую вялікую ўвагу сам імператар Расіі надаваў уніяцкаму пытанню.

Паколькі ўсе захады па вырашэнні уніяцкай справы рабіліся на такім высокім дзяржаўна-рэлігійным узроўні, яны не маглі не быць заўважанымі польскім каталіцкім духавенствам і мясцовымі панамі рымскага веравызнання. На адпаведныя крокі і яны пайшлі, каб толькі не згубіць свайго ўплыву на беларускіх уніятаў. У выніку сям-там становішча крайне абвастрылася і знаходзілася на валасок ад сур'ёзных канфліктаў. Нават не ўсе губернскія прадвадзіцелі дваранства падтрымлівалі палітыку Найсвяцейшага Сінода ў адносінах да уніяцкай царквы. Што датычыла мясцовых паноў каталіцкай веры, дык, паводле сцвярджэнняў І. Сямашкі, больш за палову іх знаходзіліся ў апазіцыі да афіцыйнай палітыкі па уніяцкім пытанні.

Відаць, не спадзеючыся, што некалі можна будзе істотным чынам змяніць міжканфесійнае становішча, у высокіх колах свецкай і духоўнай уладаў вырашылі чыста адміністрацыйным парадкам правесці далучэнне уніятаў да праваслаўных. Гэта ўжо добра вынікае са зместу складзенага 26 студзеня 1839 года камітэтам Палажэння аб мерапрыемствах па ліквідацыі уніі. Не выключаючы "супрацьдзеянняў як з боку паноў, так і з боку рымскага духавенства" на далучэнне уніятаў, прапаноўвалася забяспечыць генерал-губернатараў "інструкцыяй і асобым паўнамоцтвам, з дапамогаю якога самыя нязначныя беспарадкі, калі б яны і здарыліся раптам у некалькіх месцах, былі б неадкладна спынены ў самым іх пачатку". У Палажэнні не выключалася і магчымасць звароту па дапамогу да вайскоўцаў.

У мэтах недапушчэння масавых пратэстаў з боку уніяцкіх свяшчэннікаў аўтары Палажэння лічылі патрэбным усяляк ісці ім насустрач, калі толькі гэта асабліва не будзе пярэчыць на першым часе інтарэсам праваслаўнай царквы. Таму ў Палажэнні вырашылі запісаць наступнае: "Паколькі большая частка уніяцкіх свяшчэннікаў дала падпіску аб гатоўнасці сваёй далучыцца да праваслаўя з умовай, што ім дазволена было застацца пры мясцовых звычаях сваіх, не супярэчных праваслаўю, а, з другога боку, хуткае змяненне такіх, як галенне барады і нашэнне цяперашняга плацця, пазбавіла б іх уплыву на народ, дык трэба засведчыць, што не будзе патрабавацца змянення былых, вякамі ўсталяваных звычаяў".

Зразумела, не ўсіх уніяцкіх святароў мог задаволіць і такі памяркоўны тон Палажэння. Сярод іх мелася нямала цвёрдых прыхільнікаў веры бацькоў і дзядоў. Таму давялося зафіксаваць і такое ў Палажэнні: "Калі духоўныя акажуць супраціўленне начальству, дык іх можна пераводзіць альбо ва уніяцкія манастыры паўднёвых губерняў, абкружаных праваслаўнымі прыходамі, альбо праваслаўныя манастыры велікарускіх губерняў".

Напярэдадні аб'яднання уніятаў з праваслаўнымі ўсё большы страх агортваў каталіцкае духавенства, бо вельмі ж не хацелася траціць па многіх параметрах блізкіх яму грэка-католікаў, хаця ў мінулым далёка не ўсё ў іх дачыненнях вызначалася справядлівасцю. Каталіцкую царкву ва ўсім падтрымлівалі памешчыкі і мясцовыя цывільныя чыноўнікі лацінскага веравызнання, імкнучыся ўтрымаць уніятаў у іх веры, а тых, хто ўжо перайшоў у праваслаўе, перацягнуць у каталіцтва. У такіх умовах у некаторых уніяцкіх святароў на нейкі час нават з'явілася надзея выстаяць супраць палітыкі Сінода і цара на зліццё з праваслаўнымі. Але яна не спраўдзілася, бо ў лістападзе 1838 года, як піша епіскап І. Сямашка, выйшаў найвышэйшы ўказ, каб непаслухмяных свяшчэннікаў накіроўваць у велікарасійскія манастыры.

У І. Сямашкі ніколі не было недахопу ў аднадумцах з ліку уніяцкіх духоўнікаў адносна зліцця грэка-рымскай і праваслаўнай цэркваў праз прыняцце адпаведных адміністрацыйных захадаў. Маючы надзейную апору ў асяроддзі уніяцкіх біскупаў, ён нікольки не сумняваўся, што ад іх вельмі лёгка ўдасца дамагчыся згоды на скасаванне уніяцкай царквы. Так яно і адбылося. Але, бадай, найбольшую ўпэўненасць у перамозе выклікалі ў І. Сямашкі тыя крокі, якія рабілі самыя высокія органы дзяржаўнай улады па развязванні данага пытання. А ўзяліся яны за гэта надзвычай рашуча і капітальна. Спецыяльна створаны сакрэтны камітэт даў дырэктывы і духоўнаму, і грамадзянскаму начальству, у адпаведнасці з якімі "апошняе павінна было папярэдзіць памешчыкаў, што ўсялякая спроба з іх боку да супраціўлення і агітацыі супроць маючага адбыцца акта (скасавання уніі. — **Л. Л.**) пацягне за сабой высылку і нават канфіскацыю маёнткаў; у распараджэнне губернатараў былі пасланы казацкія атрады, расквартараваныя ў Полацку, дзе павінен адбыцца сабор". Таму няма аніякага дзіва ў тым, што перапужаныя гэтымі акцыямі грамадзянскага начальства і моцна падлеглыя ўладзе Найсвяцейшага Сінода 25 прадстаўнікоў вышэйшых структур уніяцкага духавенства, якія з'ехаліся ў Полацк, без усялякага супраціўлення падпісалі 12 лютага 1839 года "Саборны акт аб уз'яднанні". Уніяцкім іерархам не давялося ламаць галаву над складаннем яго тэксту. Пра гэта загадзя паклапаціўся згаданы вышэй сакрэтны камітэт.

Змест гэтага дакумента ад пачатку і да канца быў прасякнуты вернападданніцтвам і да кіраўніцтва Рускай праваслаўнай царквы, і да імператара Расіі, чаму ніхто не адважыўся праціўіцца. Па ўсім відаць, што ўся праведзеная ў папярэднія гады праца з духоўнікамі уніяцкай царквы з мэтай яе далучэння да праваслаўнай не была марнай. Ва унісон з палітыкамі Расіі, вучонымі афіцыйнага кшталту аўтары Акта таксама заяўлялі, што "продкі нашы, па мове і паходжанні, заўжды складалі непадзельную частку Рускага народа".

У той жа дзень Іосіф Сямашка разам з епіскапамі Аршанскім Васілём і Берасцейскім Антоніем падпісалі вельмі падобнае па змесце да "Саборнага акта аб уз'яднанні" прашэнне на імя расійскага імператара аб дазволе уніятам "далучыцца да іх прабацькоўскай Праваслаўнай Усерасійскай царквы". Да прашэння былі прыкладзены яшчэ 1 305 подпісаў асобаў астатняга грэка-уніяцкага духавенства.

Сярод тых, хто паставіў свой подпіс пад "Саборным актам...", было нямала добра вядомых, аўтарытэтных ва уніяцкім свеце людзей.

Рэнегаты уніяцтва святкавалі перамогу, найбольшы ўклад у дасягненне якой, як адзначалася вышэй, унёс І. Сямашка. Ён быў галоўнай асобай з тых грэка-уніяцкіх біскупаў, што падпісалі "Саборны акт аб уз'яднанні" уніятаў з праваслаўнай царквой. Паводле трапнай характарыстыкі А. Бялецкага, Іосіф Сямашка — гэта "першы сур'ёзны абрусіцель заходняга краю, у самым высокім, шляхетным значэнні гэтага слова".

Добра ведаючы пра надзвычай істотнае размыванне этнічнай самасвядомасці беларусаў у выніку такой працяглай паланізацыі, высокія уніяцкія духоўнікі нават і не падумалі ім у чымсьці дапамагчы. Насуперак рэальным фактам яны пераконвалі сваіх вернікаў у тым, што спрадвеку ў іх культуры, мове, звычаях усё было агульнае з рускім народам. У гісторыі ўсялякае здараецца. Час жа складання Акта — XIX стагоддзе, таму, на маю думку, важным было гаварыць не толькі аб сівой мінуўшчыне, а і аб тым, як стварыць рэальныя перадумовы для адраджэння так моцна зняважаных у выніку паланізацыі беларускіх духоўных традыцый. Пра іх цяпер ужо ніхто не думаў. Кіраўнікі ж Рускай праваслаўнай царквы ставілі сабе ў вялікую заслугу, што літаральна ад першых дзён скасавання уніі пачалося развіццё рускага жыцця сярод яе былых вернікаў на асновах паваслаўя і заснаванай у імперыі сістэмы асветы.

Падпісаны ў Полацку Акт з вялікай лёгкасцю, даволі хутка прайшоў сваё зацвярджэнне ў высокіх інстанцыях царскай улады. 1 сакавіка цар Мікалай І сваім указам Найсвяцейшаму Сіноду даручыў апошняму разгледзець данае пытанне і прыняць па ім адпаведную пастанову, што і было выканана 23 сакавіка. Яно было вырашана станоўча. Калі аб гэтым імператар атрымаў складзены 23 сакавіка Усепадданнейшы Сінадальны даклад, ён учыніў такі лаканічны запіс: "Дзякую Богу і прымаю". Пасля ўсяго гэтага Найсвяцейшы Сінод 30 сакавіка прыняў "Сінадальную грамату да ўз'яднаных епіскапаў і духавенства", у якой выказвалася вялікая падзяка ім за старанні быць разам з Рускай праваслаўнай царквою. Заяўлялася, што даная акцыя "павінна скласці векапомны прыклад у Царкоўных летапісах". У гэты ж дзень грамату Найсвяцейшага Сінода падпісаў Мікалай І, чым юрыдычна было завершана аб'яднанне уніяцкай царквы Беларусі з Рускай праваслаўнай царквою.

Аднак адразу аб'явіць яго уніятам пабаяліся. Хто як умеў, той так і рыхтаваў іх да такіх крутых перамен у рэлігійным жыцці. Адзінае, што можна ўпэўнена сказаць: людзям ён не прынёс аніякай радасці, пра якую пазней, насуперак праўдзе, будуць вельмі ахвотна заяўляць праваслаўныя свяшчэннікі. Нават вялікі прыхільнік праваслаўя Г. Кіпрыяновіч пісаў, што "простыя людзі сустрэлі маўчаннем вестку аб сконе папства" (уніяцкая царква падпарадкоўвалася рымскаму папе. — **Л. Л.**), не разумелі адрозненняў паміж рымскаю і праваслаўнаю цэрквамі. У адзнацы гэтай падзеі папам Георгіем XVI, што яна перасягнула ўсе бядоты, якія перажыла царква, мо больш праўды, чым у высечаных на адвароце медаля ў гонар уз'яднання праваслаўных з уніятамі словах: "Торжество православия". Амаль праз два дзесяцігоддзі пасля скону уніі рускі дэмакрат А. Герцэн у часопісе "Колокол" (1858) напіша, што Мікалай І "всекал униат в православие". Калі глянуць аб'ектыўна на ход рэчаў, тут у самы пярэдадзень і ў час падпісання Акта панавалі не ўрачыстасць і справядлівасць, а сіла, хітрасць і інтрыгі, ад якіх не адмаўляліся і пасля скасавання Берасцейскай царкоўнай уніі. Сама ж гэтая акцыя была не чым іншым, як вынікам сумеснай, узгодненай дзейнасці царкоўнай і свецкай улады Расійскай імперыі, якія не мелі паміж сабой разыходжанняў у правядзенні русіфікацыі Беларускага краю, якая пасля задушэння паўстання 1830—1831 гадоў ужо стала афіцыйнай палітыкай, дзеля правядзення якой у жыццё старанна працавала і Руская праваслаўная царква. Усяму гэтаму даў вельмі трапную характарыстыку адзін з выдатных змагароў за Беларускае нацыянальнае Адраджэнне Вацлаў Ластоўскі: "Даўней многа было сярод беларусаў уніятаў, якія прынялі царкоўную еднасць, але царкоўную унію збурыў Маскоўскі ўрад, хочучы абмаскаліць беларусаў".

Ліквідацыю уніяцтва ні пры якіх акалічнасцх нельга разглядаць толькі з канфесійных пазіцый, бо ў ёй свецкага было не менш, чым духоўнага, чаго не маглі не прызнаваць і некаторыя дарэвалюцыйныя рускія гісторыкі рэлігіі. Наконт гэтага ёсць вельмі слушныя меркаванні ў протаіерэя Г. Шавельскага: "...барацьба, якая вялася ў гэтым краі (Паўночна-Заходнім. — **Л. Л.**) на працягу некалькіх стагоддзяў паміж праваслаўем і каталіцызмам, да апошняга часу непасляховая для першага, не была толькі спаборніцтвам паміж двума веравызнаннямі, яна не менш датычыла дзвюх народнасцяў — рускай (натуральна, да яе Г. Шавельскі адносіў і беларусаў. — **Л. Л.**) і польскай, а ўз'яднанне 1839 года, што вырвала з рук каталіцкай царквы асуджаных на акаталічванне, а значыцца і на апалячванне больш за 1,5 мільёна рускіх уніятаў, было ўдарам не толькі для каталіцкай царквы, але і для нацыі польскай". І сапраўды пазіцыі палякаў у нашым краі значна аслабелі пасля таго, як з-пад іх уплыву вырвалі і далучылі да праваслаўя уніятаў.

**Леанід ЛЫЧ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 39—48.**

## *ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

# ВІТАЮ ПРАВЯДЗЕННЕ З'ЕЗДА

Паважаная рэдакцыя!

Здаецца, ёсць такі біблейскі выраз: "Чудны твои дела, Господи". Ніколі не думаў, што мяркуецца правесці другі сусветны з'езд беларусаў, ініцыятарам якога выступае "Бацькаўшчына".

Наколькі мне вядома, на маёй Радзіме ідзе "повальное искоренение всего, что связано с историей Белоруссии, ее духовного наследия". Гаворачы іншымі словамі, ліквідацыя ўсяго нацыянальнага.

Можа я глыбока памыляюся, бо каб правесці такое мерапрыемства, патрэбна шмат чаго, у першую чаргу, матэрыяльныя затраты. Без дзяржаўнай дапамогі цяжка разлічваць, што з'езд будзе праведзены, як у 1993 годзе. Няўжо кіраўнікі Беларусі нарэшце зразумелі, што без нацыянальнай ідэі немагчыма далейшае развіццё рэспублікі? Я вельмі далёкі ад таго, каб нацыянальная ідэя поруч ішла з нацыяналізмам, бо, як вядома з гісторыі, нацыяналізм заўсёды заводзіць як народ, так і дзяржаву ў своеасаблівы тупік.

Але як бы там ні было, правядзенне з'ездв я вельмі вітаю, зыходзячы з многіх прычын. Галоўнай, на мой погляд, з'яўляецца наступная: ён, г. зн. з'езд, — вялікі стымулятар развіцця нацыянальнага ў беларусаў, якія ў значнай частцы да гэтага часу лічаць сябе "тутэйшымі" і не болей. Можа такі погляд вельмі прымітыўны, але гэта частка лічыць так: будуць рускія — будзем рускімі, будуць палякі — будзем палякамі... Патрэбна ж нам, беларусам, хаця на пачатку трэцяга тысячагоддзя вызначыцца, хто мы: ці рускі субэтнас, ці палякі, ці беларусы... Мне ж вельмі хацелася б, каб пра нас, беларусаў, гаварылі, што гэта беларус не толькі па пашпарту, але і па духу.

У тым, ужо далёкім 93 годзе, я пасля з'езда ехаў дадому, у Запаляр'е, і быў вельмі здзіўлены наступным: у цягніку Санкт-Пецярбург — Мурманск побач з маім купэ пасажыры размаўлялі на добрай беларускай мове. Будучы ад прыроды камунікабельным, я пацікавіўся: можа яны, як я, былі ўдзельнікамі з'езда, але яны адказалі адмоўна. Тады я запытаў, адкуль яны і чаму размаўляюць на беларускай мове. Адказ быў такі: жывуць яны ў Карэліі, а калі былі ў часе адпачынку ў сваіх бацькоў, то бачылі рэпартажы па тэлевізару са з'езда беларусаў свету, чулі, як добра размаўляюць на матчынай мове нашы землякі з далёкага замежжа, дык і ім неяк сорамна стала за сябе, што яны адцураліся поўнасцю таго, на чым выгадаваны і выхаваны.

З'езд паказаў многім, што жыве Беларусь, жыве яе народ, мова, культура і што няма падстаў "хоронить" усё беларускае.

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ.**

Мурманская вобласць,
г. Манчагорск.

## ТРЭЦІ ПАДЗЕЛ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

# КАНЕЦ ПРАХАДНОГА ДВАРА

Гродна, 1793 год. Станіслаў Панятоўскі — апошні кароль Рэчы Пасталітай склікаў сюды сейм для ратыфікацыі другога падзелу дзяржавы паміж Прусіяй і Расіяй. Шмат паслоў кіравалася думкай, што карысна трымаць краіну на становішчы прахаднога двара, а яе залежнасць патрэбна для раўнавагі агрэсіўных суседзяў. Маўляў, дастаткова абаперціся на замежныя штыкі, каб адначасова карыстацца сваркамі агрэсараў за ўплыў у дзяржаве для рэалізацыі ўласных рэформ і не дапусціць узурпацыі ўлады процілеглай партыяй.

На такіх меркаваннях будаваўся разлік захаваць рэшткі, або тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы. А каб пазбегнуць канчатковага падзелу яе — здацца на волю рускай манархіні Кацярыны ІІ. Для гэтага сейм упаўнаважыў спецыяльную дэлегацыю падпісаць з Пецярбургам вечны мір узамен за дазвол самастойна ўладкаваць ацалелае. Дзеля гэтага 22 дэлегаты ад імя "ўсяго польскага народа" саступілі царскай Расіі навечна, без звароту, без прэтэнзій усе землі на ўсход ад лініі Друя — Навагрудак — Пінск (умоўна).

Як ні абураліся сеймавыя дэпутаты, але яны ўхвалілі адпаведны дагавор і з Прусіяй. Сорам і роспач ахапіў іх, калі Кацярына ІІ забараніла канстытуцыйныя праекты сейма, а ўсю ўладу ў Вялікім Княстве Літоўскім даверыла клану Касакоўскіх. Адзін з іх падпісваў да таго ж спамянуты дагавор. Касакоўскія пачалі перaслед, так бы мовіць, незалежнікаў і праціўнікаў. Увесь гродзенскі хаўрус ахапіў жах за адказнасць гвалту. Рашучыя незалежнікі на чале з 33-гадовым палкоўнікам Я. Ясінскім пажадалі захапіць уладу, каб пакараць "мечам" або шыбеніцамі здраднікаў. Каб уцалець і змыць грахі, некаторыя члены гродзенскай дэлегацыі — да прыкладу, славуты Міхал Клеафас Агінскі, магнат Міхал Радзівіл — рашылі непасрэдна ўзначаліць паўстанне. Іншыя рашылі падтрымаць якабінцаў, каб захаваць панаванне з боязі грамадскай помсты (расправы) за непатрыятызм. Абедзве плыні выдатна паразумеліся. 23 красавіка 1794 года яны захапілі Вільна, абвясцілі сябе самаўладным урадам і адразу павесілі Ш. Касакоўскага.

Адбылася звычайная палацавая рэвалюцыя — адна гродзенская хеўра скінула ва ўладзе другую, найбольш агідную. Каб паўсюдна атрымаць давер і падтрымку, паўстанцкая рада абвясціла папулярныя лозунгі вольнасці, роўнасці і незалежнасці. Нязгодным са сваёй уладай яна паабяцала тэрор і рэпрэсіі па прынцыпу: "Хто не з намі, той супраць нас". Натуральна, у Пецярбургу абурыліся такім учынкам сваіх ранейшых "вечных" сяброў і вырашылі пакараць іх як "предателей и изменников своему Отечеству".

7 і 13 жніўня 1794 года пасля вынішчэння ў ВКЛ галоўных сіл паўстання галоўнакамандуючы царскімі войскамі князь М. Рапнін атрымаў царскі загад неадкладна выгнаць інсургентаў за мяжу, за раку Нёман, на прускія штыкі. Найбольш заўзяты гэтым планам фаварыт Кацярыны ІІ П. Зубаў нават марыў "в пять маршей дойти до самого Парижа прежде прочих войск (Прусіі і саюзнікаў. — **Я. А.**) и увенчать возстановление (французскай. — **Я. А.**) монархии". Рапнін схапіўся за галаву. Яго ўразіла, як у Пецярбургу "все здесь почитается легким и повелевается везде вперед идти, всех гнать и бить". Які-такі марш, калі з наяўных 12 тысяч штыкоў і шабель 3 тысячы кінуты на атрад С. Грабоўскага, які нечакана ўварваўся ў Мінскую губерню!

Які-такі марш, калі атрады так знясілены бесперапыннымі пераходамі па змардаванай зямлі, што "сами жнут и молотят" хлеб! Кінуць гэтыя войскі нават на Варшаву — значыла агаліць і абяззброіць тыл. А "здешние жители (на апанаванай беларускай зямлі. — **Я. А.**) ежели еще не бунтуют, то из страха, а коль скоро войск наших не видят, столь немедленно уже и готовы приступить к бунту". Рапнін вымушаны тлумачыць ваеннаму міністру П. Салтыкову, што "раздел некоторой части земли и совершенное уничтожение целого государства суть две вещи весьма разные", што трэба "не занять, а так сказать, задавить войсками часть приобретения нам желаемого и сделать то как можно скорее, не ожидая неверного разрешения дел под Варшавою". Ён ізноў паўтарае, што ў паўстанні мае справу "с общим народным мятежом", што шляхта і мужыкі "при движении войск все покорны и ласковы, а по миновании их те же самые люди опять за бунт принимаются, скопляются в лесах и впадения делают, где слабые команды находят" "...и которых, следственно, выгнать перед собою нельзя, а всегда они будут оставаться в спине войска, выдавая себя за спокойных обывателей"...

Таму ён рашыўся перадаць каманду каму іншаму. Апантаныя вызваліцелі ў Пецярбургу замаркоціліся яго рэзонамі і задумаліся, як разам задушыць войскамі набытае і заняць Варшаву, апярэдзіўшы прускага манарха. Канцлер А. Безбародка думаў, што лепш даць Фрыдрыху 40 тысяч рускіх штыкоў на працяг вайны з Францыяй, а тым часам паціху замацаваць за сабой захопленае. Прытым узнік варыянт захавання рэштак Рэчы Паспалітай у якасці буфера з Прусіяй. Безбародка развaжыў план непрыдатным, бо пісаў Кацярыне ІІ наступнае.

Найперш, "поляки со всех соседей самые неверные и более всех питают к нам сильную и непримиримую ненависть" (!), бо французскія ідэі так укараніліся сярод іх, што яны "при первом удобном случае учредят по их основам правление" ў незалежнай краіне. Лозунгі ж свабоды і роўнасці выклічуць "разврат в соседях". Мець арганізаваную на такіх небяспечных пачатках Польшчу шкодна, бо "мы имеем прилежащие к Польше губернии (беларускія. — **Я. А.**), языком и обычаем с нею сходные, откуда зараза легко разпостраниться может далее (у глыб Расіі. — **Я. А.**). Пагубные же следствия такового толкования неизстребимы". Далей аказвалася, што "держать правление какое нам угодно бессмысленно среди народа непостоянного". Гэта адно знясіліць Расію і ў рэкрутах, і ў грашах. Таму, пісаў ён, няма іншага выйсця, акрамя "самого уничтожения республики польской разделением ея земель между тремя воюющими державами". Пры выбары лепшага з горшага выгадней прысвоіць 100 тысяч квадратных вёрстаў (114 тысяч квадратных кіламетраў) з двума мільёнамі насельнікаў. У выніку, заключаў ён, "получим знатное число народа греческого исповедания, в унию обращенного, и, конечно, легко имеющего возвратиться в соединение с нашею церковью при одинаком языке". Дастаткова толькі нагадаць таму народу, што ён спрадвек праваслаўны, рускі, роднасны моваю і звычаем з жыхарамі ўнутранай Расіі.

Такім чынам, адзінаўладна гаспадарыць у ацалелай Польшчы не шанціла. Рапніна пакінулі пры камандзе, а ў дапамогу яму прыслалі камергера двара М. Паніна. Апошні некалі быў паслом у Берліне. Яму пад вялікім сакрэтам загадалі паставіць войскі на Беласточчыне і пад іх аховай правесці рускую мяжу набыцця па лініі р. Буг — р. Нёман — далей па старапрускай мяжы ў Жамойці, "чтоб не дать захватить чего из оной пруссаками или цезарцами". Сам Рапнін ухваліў гэты план, бо гаварыў, што цэзарцы "далеки еще по несчастию от своих расчетов и конец дела не так близок, а прежде точного уже решения дел конечно вперед не сунутся".

Ды толькі Фрыдрыха не ўдалося правесці на мякіне. Ён спешна кінуў ваяваць Францыю, заняў сваімі войскамі Кракаўскае ваяводства і скіраваў іх на Варшаву. Паміж захопнікамі разгарэліся сваркі адносна ўраўноўвання доляў акупацыі. Як пісаў Рапнін, за пасаду галоўнакамандуючага саюзнымі войскамі "завелись несогласия между нашими генералами". Лаўры трыумфатара меціў прысвоіць прынц К. Насау-Зіген, які адвёў генерал-паручніку Ферзену і генералу Майнштэйну 2 сутак на захоп Варшавы. Кацярына ІІ супакоіла Рапніна тым, што ніколі не даверыць сваіх войскаў прынцу, упэўненая, што ён "более на стороне прусской, нежели на нашей". У выніку таленавіты Сувораў першым уварваўся ў прадмесце Варшавы, а Кацярына стала гаспадыняй становішча, што дазволіла ёй дыктаваць свае ўмовы падзелу.

16 кастрычніка яна загадала "Костюшку, злого и весьма опасного якобинца, избегая всякой опаски,.. чтобы по дороге не знали, кого везут,.. ночью тайным образом" даставіць у Пецярбург. Караля яна загадала трымаць у ізаляцыі і сказаць яму адкрыта, што "раздел Польши уже непременно решен", каб ён не квапіўся надзеямі на знешнюю дапамогу.

На пачатку красавіка 1795 года прускія войскі наблізіліся да сваёй старой мяжы і такім чынам прыйшлі ў непасрэднае сутыкненне з рускімі. У Пецярбург тут жа пацяклі весткі аб таемных прыгатаваннях цэзарцаў, якія робяць умацаванні быццам бы "против могущих быть мятежей от их польских подданных", а на справе — для вайны з Расіяй. Казалі таксама, што саюзная Аўстрыя прытуліла мяцежнага Агінскага і той рыхтуе чарговую дыверсію. Гэта прыспешыла міралюбівыя пагадненні. 10 студзеня 1795 года Кацярына ІІ параіла Рапніну "снестись с Веной и Берлином о будущем жребии Польши". Яна мала сумнявалася "о соглашении сих дворов со мною в необходимости уничтожения прежнего политического бытия сего государства, столь предусмотрела трудности и распри, кои воспоследовали между ими по поводу уделов, каждым из них присвояемых". Каб замірволіць спрэчкі, яна "положила себе правила, основанные на естественной справедливости, на совершенном безпристрастии и на той государственной пользе, которая побуждает меня пещись сколь возможно о сохранении равновесия в приращении могущества и сил государств, к моему уделу прилеглых".

Яна "определила себе ЗАРАНЕЕ", што калі ўсе трое венцаносцаў не дамовяцца ладам "никак вступить в точныя и положительныя условия и обязательства", тады яна змовіцца з тым, хто "в требованиях и желаниях своих окажется ближайшим к собственным моим видам и намерениям". Як на гора, бліжэйшым суседам аказаўся спрытны Фрыдрых, які патрабаваў вывесці рускія войскі з Беласточчыны, здаць яму прадмесце Гродна на левым беразе Нёмана. Кацярына ІІ 18 чэрвеня 1795 года назвала берлінскія дамаганні нахабствам, бо "победами оружия российского приобрели мы право располагать оными областями по лучшему для пользы России усмотрению нашему". Сквапнага Фрыдрыха яна ўпікала ў тым, што ён не здолеў сам задушыць паўстанне на сваёй долі і толькі поспехі рускай зброі "спасли области его от нашествия их. Вместо благодарности начал он отвергать все, что от нас к лучшему спокойствию и к совершенному дружественному окончанию дел польских меж тремя соседственными дворами определено". Ён нават наважыўся "согласиться с общими врагами и изменить нам, присоединив постановления в пользу французов". Во як!..

Але Кацярына загадала пакінуць Беласточчыну, папярэдне зняўшы яе на тапаграфічныя карты па ўсяму адрэзку ад Буга да вусця р. Нараў, каб "лучшее сведение иметь о той земле, в которой войну вести принуждены будем!" Прадбачылася нарыхтаваць 220 тысяч чвэрцяў мукі і круп для гэтай вайны. Царскія войскі пакінулі Беласточчыну 16 студзеня 1796 года, размясціліся па лініі: злучэнне р. Нараўка з р. Нараў — мястэчка Гарадок — вёска Кудзіна — мястэчка Кузніца — па р. Ласосна і далей па Нёману. Царскія генералы мелі загад стаяць тут сцяной. Але прускі бок упарта адхіляўся ад р. Ласосна, аспрэчваў нёманскія выспы, патрабаваў правесці раздзяляльную мяжу па р. Свіслач — блізу 25 кіламетраў у глыб расійскай долі.

Пасля зацятых звадак бакі рашылі не ваяваць. Рапнін і Панін адступіліся ад спрэчнага кавалка, але не саступілі гродзенскага прадмесця. Бо Рапнін даказваў на нарадах, што фарштат — частка Гродна і "даже самым городом в древности почитался, как видно из древних привилеев". На тым і паладзілі. 30 верасня 1796 года была падпісана дамова, па якой Гродна з прадмесцем засталіся за Расіяй. Дэмаркацыю агульнай мяжы бакі дамовіліся распачаць 12 мая 1797 года. Рэч Паспалітая знікла, перастала быць прахадным дваром. Так вось адбылося трэцяе і апошняе "ўз'яднанне" заходнебеларускіх зямель з царскай Расіяй.

Што тут добраахвотнага — няхай мяркуе чытач. Аднак я заўважу наступнае. Існуе дактрына аб тым, што Рэч Паспалітая ўяўляла перад сваім сконам анархічны лад, прыдатны для замежнай агрэсіі. Тэрмін Рэч Паспалітая пераводзяць словам рэспубліка і нібыта свабодна-дэмакратычную краіну проціпастаўляюць ваяўніча-агрэсіўным суседзям, у першую чаргу Расіі. А вось сама Кацярына ІІ казала, што пры такім ладзе "только негодяи чувствуют себя... хорошо, потому что набивают карманы и никто их не наказывает". Яна мела рацыю, бо народнымі падаткамі і рускімі рублямі кішэні набівала купка вяльможаў, якая адным росчыркам пяра, ад імя ўсяго польскага ці літоўскага народаў, у якасці сеймавых дэпутатаў ад тых народаў аддавалі (прадавалі) каханую Айчыну і любыя народы то аднаму, то другому наезніку, а потым крывадушна енчылі на чужаземную дэспатыю, галасілі з вераломнага гвалту чужынцаў. І ўсё тое — у імя захавання свайго самаўладства пры любым рэжыме, пад шыльдай модных ідэй і лозунгаў.

Менавіта супраць такіх перараджэнцаў хацеў скіраваць тэрор і сацыяльную помсту ў паўстанні 1794 года якабінец Ясінскі. Гэта ён заявіў, што дастаткова павесіць 100 здраднікаў, каб зрабіць шчаслівымі астатнія 6 мільёнаў. Яму хопіць 10-тысячнага войска, каб "цудаў нарабіць". Тады ў імя незалежнасці і волі павесілі некалькі саноўнікаў. Большасць паноўнай Літвы так гэтым напалохалася, так жахнулася відам шыбеніц, што палічыла неўласцівым для "сапраўднага паляка" брудзіць рукі ў крыві сваіх здрадлівых суайчыннікаў. Застрашаная прывідам французскай Вандэі гэтая знаць не дала Ясінскаму патрэбных касінераў, каб ён не нарабіў грамадскіх цудаў. Таму літоўскае панства не працівілася выратавальнаму для сябе дзеянню штыкоў царскай Расіі.

Аднак у 1902 годзе такі ж аднадумца Ясінскага заявіць: "Дайте нам организацию революционеров, и мы перевернем"... А можа хопіць варочаць у імя цудоўнай будучыні, выступаць ад імя ўсяго народа, узбуйняць і аб'ядноўваць па праву гістарычнага падабенства? Няхай народы гэта робяць самі.

**Яўген АНІШЧАНКА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Аўтабіяграфія зрабіла на мяне добрае ўражанне, напісана цікава, змястоўна і можа ў такім выглядзе пайсці да друку. За выключэннем апошніх двух старонак. Проста ніхто не дазволіць друкаваць іх у такім выглядзе.

Я разумею Вашы пачуцці, боль, крыўду, разумею, што такое не забываецца. Але папрашу пра гэта сказаць як-небудзь інакш…" Яшчэ Іван Дарафеевіч параіў таксама змяніць назву.

І сапраўды, цяжка сабе ўявіць, каб у 1967 годзе Галоўліт прапусціў у друк нешта такое, аб чым пісала ў канцы свайго нарыса паэтка. Дарэчы, магчыма, гэта наогул першая аўтабіяграфія Ларысы Геніюш. Напісаная, што называецца, на адным дыханні, вельмі суровымі фарбамі, месцамі надзвычай паэтычна, аўтабіяграфія завяршалася на песімістычнай ноце. Тады гэта не было прынята, аніяк не стасавалася да аптымістычнай, а часам і зусім саладжавай літаратуры сацрэалізму. Адчуваецца, што паэтка не даравала тагачаснаму рэжыму беззаконні, допушчаныя ўладамі адносна яе самой і яе блізкіх. Прыніжэнні, несправядлівасці працягваліся і ў Зэльве, пасля вяртання з лагераў.

Мужны і бескампрамісны чалавек, Ларыса Антонаўна не магла змаўчаць пра гэта. Але такое было не для тагачаснага друку. Яна, відаць, і сама гэта разумела, але правіць і выкрэсліваць нешта, што лічыла прынцыповым, яна не магла, таму адказала Івану Дарафеевічу — хай гэты дакумент паляжыць пакуль ды пачакае лепшых часоў. Таму трэцяя кніга пісьменніцкіх аўтабіяграфій "Вытокі песні" (1973) выйшла без аўтабіяграфіі Ларысы Геніюш, а арыгінал яе жыццяпісу і машынапісны экземпляр, перасланыя Іванам Дарафеевічам, так і засталіся ляжаць у асабістым архіве Ларысы Антонаўны, які зараз захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН Беларусі. І вось, здаецца, новыя часы надышлі. Чытач можа азнаёміцца з гэтым цікавым дакументам. Шкада толькі, што Ларыса Геніюш не дажыла да гэтага. Тэкст рукапісу падаем з арыгіналу, праўкі і скарачэнні, зробленыя М. Прашковічам, мы знялі. Беражліва перадаем усе асаблівасці аўтарскай стылістыкі, звязаныя з народнымі гаворкамі родных мясцін Ларысы Антонаўны. Амаль поўнасцю захаваны правапіс паэткі, толькі дзенідзе прастаўлены знакі прыпынку. Падаем таксама некалькі рэдкіх здымкаў з асабістага архіва Л. Геніюш. Ну дык вось — "Сто ранаў у сэрца" да ўвагі чытачоў!

**Яніна КІСЯЛЁВА.**

Ларыса ГЕНІЮШ

# СТО РАНАЎ У СЭРЦА

Нарадзілася я ў 1910 г[одзе] на сваёй зямлі з дзядоў і бацькоў беларусаў. Дзед мой, Павел Францавіч Міклашэвіч, паходзіў з Крынак. Паспеў ён яшчэ адрабіць 6 дзён паншчыны, а пасля прадаў сваяго 1/2 участка зямлі (было іх два браты), дэ гэтага пазычыў грошай на банк і купіў сабе харошы маёнтачак Астапкаўшчыну. Кажуць, што дзед мой пасвіў гоўцы і знайшоў скарб, за які пасля і купляў сабе зямлю. Я ў гэта не веру. Ён быў працавіты і разумны чалавек, пры тым славіўся сваёй чэснасцю. Быў амаль непісьменны, ледзь-ледзь мог караценька падпісацца. Іншай мовы не ведаў, акрамя беларускай, і да смерці ёў дзераваною пожкаю, каб не апарыць сабе языка. Дзед мой ажаніўся ў 18 г[адоў] з Марфаю з Чамяроў, якой было 16 гадкоў. Было ў іх нешта 16 дзяцей, з якіх жыло 8. Пасля Астапкаўшчыны дзед мой купіў яшчэ Гудзевічы. Іх праіграла нейкая графіня ў карты, і дзеду яны прышліся надорага. Кажуць, што тая графіня вельмі хацела вярнуць сабе Гудзевічы, але дзед мой іх не аддараў. Графіня яго праклінала, а ён лічыў, што яна гэтай зямлі не варта. Калі тата мой вярнуўся з далёкай японскай вайны, дзед ажаніў яго і купіў, на гэткі ж віленска-тульскі банк, яму Жлобаўцы, каля старога мястэчка Воўпа. Там я і нарадзілася. Здавалася мне, што я паўстала з жытоў, з неба і траў, а перадусім з любай беларускай мовы, на якой ласкава звярталіся да мяне бацькі, старэнькая няня і іншыя. Мне было светла і добра, але хутка забралі тату на вайну. Мы, тры малыя сястрычкі, уцякалі з мамаю на фургонах ад немцаў і апынуліся недзе аж на Украіне. Там і сустрэла нас пасля рэвалюцыя. З усіх гэтых вялікіх падзеяў застаўся ў душы маёй жах ад стрэлаў і ад забітых.

Бацька мой шчасліва вярнуўся з вайны, і толькі пры ім я чулася болей бяспечна.

Мама мая паходзіла таксама з сялян з вёскі Завадзічы каля Чарлёнай на Гродзеншчыне. Яе бацька Васіль Манюта кінуў вёску і пайшоў на арэнды. Дзяцей у яго было таксама 16, з якіх выгадавалася толькі пяцёра. Малыя патрэбы сялян і іх вялікая працавітасць зрабілі іх хутка багатымі. Дзеда пачалі праследаваць гоныя сваякі, хацелі нават забіць. Яго абвінавачвалі, што ён знайшоў залаты скарб і гэтакім чынам разбагацеў. Цярпеў дзед Васіль да той пары, пакуль нейкі ягоны сваяк не выграў з зямлі сагана з залатымі грашмі. Ён так крычаў з радасці, што набеглі людзі і ў момант разхапалі ўсе тыя грошы. Дзеда пакінулі ў спакоі.

Вось такім чынам мы выйшлі ў паны, застаўшыся пры тым шчырымі беларусамі.

У бежанстве вечарамі зыходзіліся да нас сваякі, бо ўсе мы сабраліся бліжэй сябе, успаміналі мінулае… Пра суды і зямлю, пра пасты і бабіны малітвы, пра тое, як збіраліся восенню ў Крынках і дзьве нядзелі маліліся за памершых, як з'ядалі кадушку насоленай бараніны і выпівалі не мала гарэлкі. Аб тым, як баба Марфа ўспамінала паўстанцаў*, якія, акрываўленыя і раненыя, палілі ў іхняй печы паперы, як прадзед мой, лясун Чамер, памагаў ім. Расказвалі пра дзівы і духі, якія вельмі актыўна, паводле іх слоў, умешваліся ў жыццё гэтых сем'яў. Гутарылі пра Беларусь сваю з тугою, з вялікім каханнем і толькі мілаю роднаю моваю, зусім не так, як гутарылі з чужымі. Рваліся ўсе дамоў, рабілі пляны, што будаваць, где сеяць, якое заводзіць быдла ды коні. І я горача кахала тую зямлю і чакала пtriрвароту дамоў разам з усімі.

На сваю радзіму мы вярнуліся ў 1919 г[одзе]. Ехалі й зноў коньмі праз пустыя вёскі, где хаты былі без дзьвяроў і без вокан, са стрэхаў расла крапіва, а вакол шумелі кустарнікі. Пуста было і ў нас на падворку. Стаялі абсмаленыя муры і захавалася толькі адна старая, маленькая хата. Было многа грыбоў і мала хлеба. З бежанства вярталіся людзі, ніхто ім не памагаў. Супрагаю гаралі зямлю, аднаўлялі хаты, пралі-ткалі і неяк жылі. Мяне аддалі вучыцца з пачатку ў Гудзевічы, а пасля ў Ваўкавыск, у гімназію.

У Ваўкавыск я заўсягды ехала не ахвотна. Цяжка мне было пакідаць зялёныя ці заснежаныя Жлобаўцы, сваю сям'ю, где ўжо нарадзілася брацікі. Да болю мне было сумна без ветру ў палёх, без сялян і без дрэваў. Навука давалася мне лёгка, але зямля клікала мяне, моцна трымала ў зялёных руках маё сэрца, змушала думаць і параўноўваць. Гімназія, як і ўсе школы тагды, была польская. Я была дачкой паной, і да мяне адносіліся добра, але вось усіх харошых маіх землякоў лічылі толькі слугамі і мужыкамі. Мучылі мяне роздумы аб тым, што кожны родзіцца маленькі і голы, і як жа розна кожны абрастае тым шчасцем у жыцці. Якая ж няроўная, несправядлівая доля! Я глядзела на свой харошы народ, які дзялілі рэлігіямі, штучна творачы з нашых католікоў палякаў, хаця адвечнай іх роднаю мовай была толькі беларуская мова. Гэта было зусім не ў духу Хрыста, і я пачала бачыць розніцу між Богам і клерам. Колькі ж можна дзяліць, разрозніваць і ўніжаць мой народ, думала я тагды. Цяжка было беларусам вучыцца. З пачатку вучыліся чужой мовы, а пасля ўсёю іншага на чужой мове. Чужыя прыносілі нам малітву і навуку, толькі на "панскай" іхняй мове, уніжаючы нашу Скарынаўскую. Каб збавіць беларусу сярэднюю асвету, часта трэба было выракацца народнасці і рэлігіі. Я не выракалася нічога, асабліва не выракалася маяго народу і яго долі. Я кахала яго, як кахаюць родных бацькоў ці найбольшую дабрату, ці найвышэйшую праўду. Я была жывою часткай яго, багатая яго грунтоўнай культурай, ласкавая яго дабрынёй і сільная для змагання з яго горам. Як зачараваны недругамі волат, ляжаў на вузкіх палосках Скарынаў народ і не меў магчымасці іксці шляхамі вялікага продка. Я верыла ў свой народ, і толькі мне хацелася некалі ўбачыць, якіх поспехаў дасягне ў школе пастух і як успрыме святло вялікых ведаў служанка. У той беспрасветны час гэта толькі былі летуценні і гутаркі з месяцам.



Здымак з пражскага перыяду жыцця Ларысы ГЕНІЮШ.

* 1863 г.

(Працяг будзе).

# АДРАДЖЭНСКАЯ ПОСТАЦЬ У БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Не паглынуў Драздовіча палын:
знайшлі яшчэ аўтограф шчырасці.
Растыражыруйце яго цудоўны млын
І млынара яго разафішыруйце.
...Растыражыруйце тады альбом
з касмічнымі муроўкамі і лікамі.
...Растыражыруйце яшчэ не мёртвы кут:
І нашы продкі скрозь туман праявяцца.
...Растыражыруйце яго "люблю..."
...Растыражыруйце натхнення ўзрод...

І мастакі суполкі "Пагоня" разам з іншымі мастакамі адгукнуліся на гэты палымяны заклік Сяргея Панізьніка. Яны ў літаральным сэнсе шчыра і эмацыянальна, кожны ў меру свайго таленту і стылістычнай манеры, "растыражыравалі" рэшткі цудоўнага млына і мясціны яго млынара. У іх творах мы ўбачылі любімыя Язэпам краявіды былога засценка Пунькі, дзе жыў і пахаваны Я. Драздовіч і яго маці, і цікія завадзі пакручастай рачулкі Мнюты, старажытныя курганы Вялец, каменныя і металёвыя крыжы ў Падсвіллі; увогуле прыгожыя мясціны Глыбоччыны, сходжаныя мастаком у навакольлі Германавіцкага і Лужкоўскага касцёлаў XVIII стагоддзя, і жывапісныя каменістыя пагоркі з буйнымі валунамі марэннага перыяду, пакінутыя тут падчас адыходу ледніка. Сярод іх Я. Драздовіч вылучыў групу валуноў, якія мясцовы люд назваў "Стадолішча". Менавіта яго неаднаразова маляваў і графічна рысаваў мастак у сваіх творах.

Але чым яно так вабіла і цікавіла Я. Драздовіча? Гэтае пытанне паспрабаваў высветліць скульптар А. Шатэрнік.

"Стадолішча" ўяўляе тры каменістыя глыбы, жывапісна размешчаныя ў прасторы, з іх дзве — звычайныя валуны са сваімі рэльефнымі адмецінамі, а трэцяя — так званы следавік з выявай следа ступні. Адзіночныя следавікі мастакі бачылі тут і ў іншых мясцінах. А. Шатэрнік успрымае іх "нібы ўмыслова званіўшыміся з неба". На мой погляд, назва "Стадолішча" блізкая па гучанню англьскай назве Стонхэндж. Вядома, што ў Заходняй Еўропе менгіры часта пакрываліся рэльефамі і ім людзі пакланяліся. Магчыма, што і следавікі Глыбоччыны і тое ж "Стадолішча" таксама былі месцамі, куды прыходзілі пакланяцца нашы прашчуры ў эпоху бронзы і паганства. І хтосьці з іх выбіў гэтыя выявы на камянях. Вывучаючы багатыя на прыродныя помнікі мясціны Глыбоччыны, сучасныя мастакі лепш зразумелі захапленне Я. Драздовіча археалогіяй, астраноміяй.

Убачыўшы пры дарозе на Германавічы вялізны камень, скульптар Шатэрнік вырашыў выбіць на ім рэльеф, як гэта рабілі людзі ў эпоху бронзы на менгірах. Ён па-мастацку адлюстраваў на ім шлях Драздовіча ў гэтых мясцінах і рэльефна выбіў на камені раней маляваны Язэпам сцяг з гербам "Пагоня". Гэтым самым А. Шатэрнік стварыў своеасаблівы мануменатльны помнік Я. Драздовічу, з якога будзе пачынацца турыстычны маршрут па яго мясцінах. І кожны, хто будзе ехаць ці ісці па гэтай дарозе, даведаецца пра ўраджэнца тутэйшых цудоўных мясцін — таленавітага творцу Язэпа Драздовіча.

Пленэр доўжыўся ўсяго дзесяць дзён, на працягу якіх 15 мастакоў і мастакоў-выкладчыкаў Беларускай акадэміі мастацтваў, а таксама Мінскай мастацкай вучэльні — М. Аўчыннікаў, П. Багданаў, І. Барадуліна, Г. Горава, М. Купава, А. Марачкін, А. Мацiевіч, В. Маркавец, Ю. Піскун, В. Сулкоўскі, С. Цімохаў, А. Філіповіч, А. Шатэрнік, В. Шчасны і В. Шылко наведалі мясціны Я. Драздовіча і стварылі шэраг твораў, якія выставілі ў невялічкім пакойчыку філіяла Германавіцкага музея культуры і быту, што знаходзіцца ў сядзібе саўгаса "Гарадзец". Атмасфера драздовічаўскіх мясцін і краявідаў, асабліва сустрэчы з людзьмі, якія яшчэ памятаюць Драздовіча, аказала вялікі эмацыянальны ўплыў на мастакоў, закранула патаемныя куточкі іх сэрцаў, запала ў іх душы і спрыяла шматлікім асацыятыўным адлюстраванням усяго гэтага ў творах.

Іх выстава адкрывалася інсталяцыяй А. Марачкіна з прарочай назвай Драздовіча "Мяне яшчэ пашукаюць". Яна ўспрымаецца як своеасаблівы скульптурны помнік "дзядзьку Язэпу" (так яго назваў С. Панізьнік), утвораны з каменя, падабранага з падмурка засценка Пунькі, моранага дуба, вылаўленага ў рачулцы Мнюта, і арыгінальна скампанаваных у вертыкальную кампазіцыю.

Прыгожыя і эмацыянальна ўспрынятыя лірычныя краявіды, прысвечаныя драздовічаўскім мясцінам, напісалі М. Аўчыннікаў, П. Багданаў, В. Сулкоўскі, А. Мацiевіч, Ю. Піскун, В. Філіповіч, С. Цімохаў. Але кожны ўбачыў і адлюстраваў гэтыя краявіды па-свойму. Вельмі цікава была б больш падрабязна прааналізаваць гэтыя творы, але шэраг гадзіна, у якую мы аглядалі выставу, і невялікі час, адпушчаны на асабістае знаёмства з творамі, гэтаму замінаалі.

Тым не менш першыя ўражанні далі магчымасць заўважыць, што С. Цімохаў, напрыклад, паспрабаваў зазірнуць з вышыні на гэтыя мясціны вачыма таго ж Драздовіча, нібы ў сне прапятае над імі. Ю. Піскун убачыў нейкія таямнічыя праявы ў засені ліпавай алеі Пунькаў, у стромкім палёце птушак, ва ўкрыжаваннях на магілках, якія нараджаюць і ў гледача розныя асацыяцыі, як і ў самога мастака, які напісаў іх у вельмі экспрэсіўнай стылістыцы, раней яму ўласцівай.

В. Маркавец напісаў карцінукраявід, у якой адлюстраваў пад высокім блакітным небам з прыгожымі белымі аблокамі славуты камень Драздовіча ў той момант, калі А. Шатэрнік выбіваў на ім рэльефную кампазіцыю "Шлях Драздовіча". Арыгінальна выканаў Маркавец і краявіды з Германавіцкім касцёлам і Пунькамі, размешчанымі ў цэнтры нібы традыцыйных для творчасці Драздовіча маляваных дываноў, тым самым аддаўшы павагу яго памяці.

Цікава выставіўся на пленэры Валеры Шчасны двума творамі, напісанымі ў рознай стылістычнай манеры. "Касцёл у Бабруйску" адлюстроўвае натурную выяву прыгожага, камерных маштабаў храма. А вось карціна "Крыж" падалася мне вельмі арыгінальнай з-за яе кампазіцыйнай пабудовы. Убачыўшы ўпершыню на далёкім нізкім гарызонце мясцовы каменны крыж, мастак нібы ўбачыў яго шматкратныя адлюстраванні на небе, якое цалкам закрылася імі, і, здаецца, крыжы пакрыюць ужо ўсё вышэй неба над Беларуссю. Такое кампазіцыйнае рашэнне выклікае асацыяцыі аб крыжовым пакутніцкім лёсе Беларусі на працягу двух апошніх стагоддзяў.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## ПАМЯЦІ АНДРЭЯ СНІТКІ

# ГАСПАДАР КАЛЬСБЭРГА



(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Пра Андрэя Снітку і яго сям'ю ведаем надзвычай мала. Беларуская Савецкая Энцыклапедыя пра гэтага абшарніка і асветніка паведамляе: "Снітка Андрэй Канстанцінавіч (1866 — 13.3.1920), археолаг і краязнавец. З дваран. Скончыў Рыжскі політэхніч. ін-т. З 1908 сакратар, з 1909 старшыня Мінскага царк. гісторыка-археалагічнага к-та, удзельнічаў у выданні "Минской старины", падрыхтаваў да друку 4-ы выпуск, у якім апісаў дакументы Слуцкага Свята-Троіцкага (Трайчанскага) манастыра. Узначальваў Мінскі царкоўна-археалагічны музей. З 1915 у Глухаве Чарнігаўскай губерні, настаўнік гімназіі. Аўтар гісторыі Слуцка (рукапіс у архіве Ін-та гісторыі АН БССР) і артыкулаў пра гісторыю Беларусі..."

Амаль такія ж звесткі пра Андрэя Снітку і ў аднатомнай энцыклапедыі "Археалогія і нумізматыка Беларусі". Праўда, да азначэнняў "археолаг, краязнавец" энцыклапедыя "Археалогія..." дадае яшчэ: "этнограф, музеязнаўца". Удакладнены ў гэтым выданні і час заканчэння Рыжскага політэхнічнага інстытута — 1888 год. Ёсць у энцыклапедыі "Археалогія..." і іншыя падрабязнасці, але нязначныя. Прыкладам, паведамляецца, што Андрэй Снітка зрабіў даследаванні ў Тураве, апісаў Нікольскую царкву ў Смалявічах, Мінск XVIII стагоддзя, склаў радавод князёў Алелькавічаў і іншых.

Для энцыклапедычнай даведкі можа і дастаткова звестак. Але ж чалавек пражыў жыццё больш шматфарбнае, чым расказвае энцыклапедычная даведка пра яго. Дык хто пра гэта зараз раскажа? Пытанне зусім не рытарычнае. Наймалодшая з Сніткавых дзяцей дачка Вера нарадзілася ў 1901 годзе. А зараз 1996-ты, канец стагоддзя. Якраз так Бог даў, што лёс ашанаваў яе для Беларусі. То хто лепей, як не дачка Андрэя Снїткі спадарыня Вера, раскажа пра ўсе драбніцы побыту Сніткаў...

...Мой тата нарадзіўся ў Вільні з шлюбу Канстанціна Снїткі з Марыяй з Пузыроўскіх. У іх адразу нарадзілася двое дзяцей — мой тата Андрэй і яго сястра Каця. Яны былі блізнюкі. Дзеці рана асірацелі. Калі Андрэю і Каці было па шэсць гадоў, памёр бацька, а яшчэ праз наступныя шэсць гадоў змерла і іхняя матуля — Марыя Аляксееўна, і апекуном асірацелых дзяцей стаў колішні прафесар Віленскага універсітэта, вядомы віленскі цэнзар Павел Кукальнік. Чаму Кукальнік? Адна сястра Паўла Кукальніка была замужам за Сніткам. Апякунства гэтае было шчырае і сардэчнае. Гадавалі Кукальнікі Сніткавых дзяцей як сваіх, дбалі пра іхнюю будучыню, далі ім добрае свецкае выхаванне.

Тата мой быў даволі буйным землеўласнікам, абшарнікам. Дзеля гэтага ён скончыў сельскагаспадарчы факультэт. Яму, апрача Кальсбэрга, які лічыўся маёнткам, належала пад Радашкавічамі шмат розных фальваркаў. Зямля была адзінай крыніцай ягоных даходаў, прыбыткаў. Але галоўны ягоны занятак — археалогія, гісторыя. Гэтым ён моцна захапляўся, гэтым ён шмат займаўся. Праз гэта ён меў вялікае знаёмства з вучоным светам.

Хоць мы і заможна жылі, але тата вельмі не любіў раскошы, лішніцы. Лічыў, што раскоша асабліва шкодная для дзяцей. Згадваю такое здарэнне...

Мама мая, як і ўсе мамы, хацела, каб мы, дзеці, як мага найбольш стройна глядзеліся. Рупілася, каб мы шыкоўна былі апранутыя. А тату гэта не вельмі падабалася. Пашылі мне неяк паліто зімовае — такое чырвона-аксамітнае, з белым мехам, футрам. Ідзем мы неяк раз па Мінску. Я такая мардасценькая, як лялька. А нехта з стрэчных менчукоў не вытрымаў і сказаў: "Ах, какая девочка богатая!" Я пачала прыемна ўхмыляцца. Тату гэта вельмі не спадабалася. Сказаў, каб чырвонае, аксамітнае з белым мехам паліто замянілі на больш сціплае. Татава слова было закон, давялося падпарадкавацца, прыслухацца да ягонае парады. Такі ж ён быў патрабавальны і да хлопцаў, маіх братоў: захацелі яны неяк зладзіць пляцоўку ці корт. А тата ім на гэта: "Самі зрабіце!"

У нас быў культ каня. На конях ездзілі ўсе. Ездзіла і я. Часта наязджалі да нас і госці. Яны таксама любілі конны шпацыр. Не злазіў з каня і тата. Ён меў сэрцовую хваробу, быў сардэчнік, то часта ездзіў на кані верхам. Гэта ж вельмі рамантычна ездзіць на конях! Браты мае любілі не толькі ездзіць, але і купаць коней у Гуі.

Тата лічыў, што дзяцей лепей вучыць дома. Мяне ж не аддавалі ў школу да чацвёртага класа. Тата любіў музыку, тэатр. Да 1911 года мы жылі на Прэабражэнскай. У 1911 годзе пераехалі на Вясёлую — цяпер яна, здаецца, Першамайскай завецца. Там была вялікая, 13 на 14 аршынаў зала... Драўляная разная століь, вакханкі. Брат мой па той зале на веласіпедзе ездзіў. У той зале ладзіліся розныя сустрэчы, музычныя вечарыны. Аднаго разу ў гэтую залу запрасілі хор Тэраўскага. Гэта вельмі ўразіла харыстаў. Такую запросіну яны ўспрынялі як павагу да беларускай песні. Тэраўскі сказаў: "От цяпер і беларуская песня выб'ецца ў людзі". Дапамагаў тата з дзядзькам Уласавым ладзіць грамадскае і духовае жыццё ў Радашкавічах і Кальсбэргу. Быў ён спагадны да людзей, да людскога гора. Раней часта надараліся пажары. Пагарэльцы з гора рвалі на сабе валасы, а суседзі суцяшалі: "Не бядуй: Снітка паможа!" І ён напраўду ўсім памагаў. Каму грашыма, каму дрэвам. Нікога не пакідаў без увагі. У нас жа ў ваколіцах Радашкавічаў была палова хрэснікаў. І на асвету ён нямала ахвяраваўся. Агульнавядомы факт, калі тата пад гарадскую вучэльню ахвяраваў свой дом у Радашкавічах. У 1914 годзе пачалася вайна, дык тата паўкватэры аддаў пад шпіталь, ці, як тады казалі, пад лазарэт. Дваццаць жаўнераў і чатыры афіцэры лячылі свае раны ў нашым доме. Мама ім вельмі спагадала, пісала ім пісьмы. Наш Сева таксама быў на вайне. Мы ўжо ведалі, што ён загінуў...

Łopatynski, Fleury z Baczanski.

У 1915 годзе мы выехалі з Беларусі на Украіну — у Глухаў... З сабой узялі толькі самае патрэбнае, самае неабходнае: пасцель, посуд. Усё астатняе: бібліятэку, карціны, мэблю пакінулі тут. Тата так меркаваў: "Хай усё так застаецца. Не можа быць такога, каб глум тут чыніўся. Ім жа, небаракам,— так ён казаў пра ваякаў — дзесь жыць трэба... Вось і будуць жыць... Хіба ім утульнасць зашкодзіць?!" А тут жа першыя казакі ўсё паздзіралі, паздзіралі, расцягнулі, разрабавалі... Кнігі, карціны...

Мой тата, апроч усяго, добра маляваў. Неяк быў захварэў Сева, і тата перамаляваў Панцеляймона Лекара. А от яшчэ цікава. У Мінску была драўляная цэркаўка. А ў гэтай цэркаўцы абраз трох святых — Антоні, Іаана і Яўстафа. Тата і гэты абраз з галовамі трох святых перамаляваў і ў Радашкавіцкую бажніцу прывёз... Тата і смерць сваю праз маляванне прыняў. Было ўжо гэта ў Глухаве. Рыхтаваўся якісь спектакль, а тата ўзяўся дэкарацыю маляваць. Маляваў на падлозе. Дэкарацыя тая была такая вялікая, што яму давялося тужыцца, дацягвацца да сярэдзіны. А сэрца не вытрымала... Там, у Глухаве, яго і пахавалі. Але магілка ягоная не ацалела. Апошняй вайною ў яе патрапіла бомба ці снарад... Мне пра гэта людзі пісалі...

Я пацікавіўся ў Веры Андрэеўны, а калі ж нарадзіўся яе тата: у нашых энцыклапедыях пазначаны толькі год народзін, але няма ні чысла, ні месяца. А гэта нікуды не варта, гэта пры жывой дачцэ! На жаль, Вера Андрэеўна даты народзінаў свайго бацькі не памятае. То можа памятае, калі ягоныя імяніны правілі. Але і гэтага Веры Андрэеўне не прыгадваецца. "Даўней гэтаму асаблівага значэння не прыдавалі", — тлумачыць яна. Адно толькі выказвае меркаванне. Гэта магло быць чысла 13-га снежня, калі па календары выпадае імя Андрэй. Блізкае ля гэтай даты імя Кацярына, імя ягонай сястры. То, магчыма, гэта і ёсць дата нараджэння Андрэя Снїткі. Ва ўсякім разе сёлета яму споўнілася б сто трыццатая гадавіна з часу ягоных народзінаў. Гэта дакладна. Паміж іншым у газеце "Наша Слова" за сёлетні год у каляндарнай выбарцы "Даты і падзеі ў ліпені", якую вядзе Здзіслаў Сіцька, прамільгнула паведамленне, што Андрэй Снітка нарадзіўся 19 ліпеня. Калі гэта так, то гэтую дату варта ўвесці ва ўсе нашы даведнікі. Вера ж Андрэеўна нічога пэўнага пра гэтую дату сказаць не можа.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Канстанцін СНІТКА з дзецьмі. Фота 1866—67 г.г.; Андрэй СНІТКА-гімназіст.**

## НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ



**"Мастакі супраць СНІДу" — так называецца выстава, якая адкрылася ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі. На ёй прадстаўлены работы сямі маладых беларускіх мастакоў. Гэта першая акцыя такога тыпу.**

**НА ЗДЫМКУ: мастакі Таццяна РАДЗІВІЛКА, Канстанцін СЕЛІХАНАЎ і Павел ЮНАЎ прадставілі свае работы на гэтую выставу.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

## МАЭСТРА РОЎДА

Павіншаваць з 75-годдзем маэстра Віктара Роўду ў Белдзяржфілармоніі сабралася музычная грамадскасць усёй рэспублікі. Прыбыло больш дваццаці хораў. З прывітальнымі адрасамі выйшлі мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, першы намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка, які зачытаў артысту віншаванне ад Прэзідэнта рэспублікі, пасланец ад Вярхоўнага Савета, пасол Літвы, рэктар Акадэміі музыкі, рэктар Акадэміі мастацтваў, саратнікі, сябры, прыхільнікі, вучні — некаторыя спецыяльна прыехалі на ўрачыстасць з іншых краін. Шчырасць, цеплата, гумар былі амаль як у сямейным коле. У Роўды (што адпавядала, вядома, асобе і таленту) быў размах дзяржаўны. Чалавек унікальны. Чалавек легендарны. Мэтр беларускай культуры. Гонар нацыі. Яго любяць. Яму апладзіруюць. Яго баяцца. Яму падпарадкоўваюцца, у яго вучацца, таму што і сябры, і ворагі разумеюць: лепшага харавога дырыжора, чым Роўда, у нас пакуль няма.

Калі ён, стары-леў, вялікі і прыгожы, з німбам з белых кучараў, велічна і дастойна дзве з паловай гадзіны стоячы прымаў віншаванні, а ў канцы выйшаў, як нічога і не было, падцягнуты і элегантны, і прадырыжыраваў амаль тысячным хорам, усе адчулі магутнасць харавога спеву, музыкі і сілу таленту Роўды.

## МОДА





У Мінску ў Беларускім цэнтры моды адбылася штогадовая метадычная нарада з паказам перспектыўнай калекцыі мадэлей вясна — лета-97.
НА ЗДЫМКАХ: у час паказу мадэлей.

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.



Мікола АЛТУХОЎ

### МАСТАК

Пад вокнамі парыпвае.
Клапоціўся ўсур'ёз
І лісцейка на шыбах
Намаляваў мароз.

Відаць, лісткі бярозы,
А можа, бузіны!
Што ж, выйшлі у мароза
Забаўнымі яны.

Світальнаю парою
Гарэзлівы дзядок,
Нібыта крапівою,
Мне шчокі, нос абпёк.

Не ведаў я калісьці,
Ды зведаў на зары,
Чыё, якое лісце
Намаляваў стары.

### ЗАВІРУХА

Дубы не журацца над рэчкаю,
Рупліва ловяць белы пух
І, яркім інеем расквечаны,
Лес дачакаўся завірух.

Марознаю духмянай раніцай
Над жаўцізной пажухлых траў
Завеі ўспомніць намагаюцца
Мелодыю, што шпак спяваў.

Успамінаюць песні шчырыя
Каля бярозы і сасны,
Нібыта клічуць птушак з выраю
Сюды задоўга да вясны.

Звіняць яны і каля берага,
І ў гушчарах пяюць сівых,
Каб бачыў лес у снах цяперашніх
Сваіх салістак веснавых.

### ЦІШЫНЯ

Лес маўчыць,
Толькі глуха сумуе,
Калі вецер вяршыні кране,
Нібы ўспомніць красу веснавую
І ўздыхне на ўсе грудзі свае.

Трэсне сук, нібы стрэл пралунае,
А паломкі нідзе не відны.
Чуеш —
Дзяцел цвікі забівае,
Рамантуючы лес да вясны.

# АДРАДЖЭНСКАЯ ПОСТАЦЬ У БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Тэма крыжовага лёсу Беларусі праяўляецца па-рознаму ў многіх сучасных мастакоў. Але твор В. Шчаснага падаўся мне самым удалым на гэтую тэму. Нягледзячы на камерны маштаб палатна, карціна глядзіцца манументальна і велічна, гэтаму спрыяе і ашчадна абраны вечаровы сіне-бэзавы каларыт.

Звярнулі на сябе ўвагу творы дзвюх маладых мастачак — І. Барадулінай і Г. Горавай. Апошняя напісала прыгожы краявід "Сінагога", на якім адлюстраваны рэшткі калісьці вельмі прывабнага храма. Своеасаблівай карцінай "Памінкі па Я. Драздовічу" ўшанавала Ілона Барадуліна памяць земляка свайго бацькі — паэта Рыгора Барадуліна. Карціна ўяўляе асацыятыўнае ўспрыманне мастаком памінальнай трызны. Яна напісана з адваротнай перспектывай у зялёна-фіялетавым каларыце, дзе буйным планам на ўсю прастору палатна пададзены стол і крэсла, а посуд на стале вылучаны дробнымі плямкамі.

Як заўсёды, палітычна-завострана напісаў свой твор "Двухгаловы драпежнік" Мікола Купава, алегарычна адлюстраваўшы гістарычныя падзеі далучэння беларускіх зямель пад крылы расійскага двухгаловага арла, які скінуў карону з сімвалічнай выявы Беларусі ў выглядзе жанчыны ў белым адзенні... Пад яго ж крыламі апынулася і наша культурная спадчына — руіны навагрудскага замка.

Выканаць другі заклік паэта С. Панізьніка — "разафішыраваць" творчасць Язэпа Драздовіча на першым пленэры не ўдалося. Гэта можна будзе здзейсніць пасля арганізацыі шэрага падобных пленэраў, якія вырашана праводзіць тут штогод, загадзя шукаючы фундатараў. Многія творы мастакі падаравалі мясцоваму музею. На заканчэнне варта прыгадаць, што "...у бочку мёду была дабаўлена лыжка дзёгцю": мясцовае начальства не дазволіла вучням старшых класаў тутэйшай школы прыйсці ў музей на сустрэчу з мастакамі і іх творамі.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

*АСАБІСТАЕ*

# АДГУКНІЦЕСЯ, САМОТНЫЯ!

Пайшоў ужо другі месяц сёмага году маёй самотнасці: жонка Галіна памерла ад невылечнай хваробы ў жніўні 90-га... З тае пары ўвесь час жыву ў самоце, дзяцей у нас не было... Кнігі, музыка, тэлевізар — гэта "тройца" спадарожнічае майму самотнаму жыццю па-за працай і ў дні, вольныя ад працы. Працую я ў школе выкладчыкам расейскай і польскай моў і замежнай літаратуры, таму няможна сказаць, што я цалкам у самоце: у школе мяне штодня чакаюць мае выхаванцы з 5 "А" класа, якім стараюся аддаваць усяго сябе, але ў другой палове дня вяртаешся ў кватэру, дзе ніхто цябе не чакае, і пачынаеш задумвацца, а ці не час ужо пазбавіцца такога становішча? Мне ж яшчэ ўсяго толькі 52 гады, і магчыма недзе гэтаксама ў самоце бавіць свой вольны ад працы час іншая асоба?! Дык ці не час працягнуць нам адзін аднаму руку на дружбу, а з цягам часу і на нешта большае?!

Няма значэння, дзе пражываеш: у Белурусі, Літве, Польшчы, ЗША ці Канадзе. Галоўнае,што ты таксама, як і я, прагнеш нарэшце пазбавіцца самотнасці, імкнешся пасябраваць з чалавекам, з якім у дружбе і згодзе можна будзе пражыць другую палову свайго жыцця. Удваіх гэта будзе і лягчэй, і прыемней, і не так страшна будзе сустрэць "восень" свайго жыцця... Пажадана асоба з вышэйшаю адукацыяй, якая валодае беларускай мовай, умее разумець не толькі сябе, згодная на пераезд на Украіну да мяне альбо мае добрыя варункі для сумеснага жыцця ў сябе. Узрост — не маладзей за 45... Чакаю лістоў на адрас:

**Пятрусь Капчык, 281200, горад Ізяслаў, вул. Незалежнасці, 21, кв. 2, Хмяльніцкая вобласць, Украіна.**

Спадзяюся, што мой ліст не застанецца без увагі, за што вялікі ўсім загадзя дзякуй!

З павагай —

**Пятрусь КАПЧЫК.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1306.
Падпісана да друку 2.12.1996 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.